№ 12 (29)
Сакавік 2004 года



# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:







## "Жавароначкаў"

***"Вясну прыносяць жавароначкі", – кажуць людзі. А ўзорны ансамбль "Жавароначкі" сам нарадзіўся ўвесну, сам прыйшоў з вясною. Сёлетнім сакавіком яму 20 гадоў.***

Ансамбль быў заснаваны ў 1984 годзе пры Доме піянераў і школьнікаў Маскоўскага раёна Мінска хормайстрам Наталляй Баяльскай. У 1990 годзе атрымаў званне "ўзорны", а ў 1991-м перайшоў у падпарадкаванне Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей.

За два дзесяткі гадоў праз калектыў прайшлі сотні хлопчыкаў і дзяўчынак, багата абнавіўся рэпертуар, пастаянна з'яўляюцца фальклорныя кампазіцыі, прысвечаныя святам беларускага календара. Адмысловымі імпрэзамі адзначаныя Каляды, Гуканне Вясны, Купалле, Дажынкі... А яшчэ ў пастаноўках скарыстоўваюць гульні і забаўлянкі, прыказкі і прымаўкі. Але галоўнае – голас спевака. Дасягненні кожнага – вынік працы калектыўнай ды індывідуальнай.

"Жавароначкі" часта выступаюць, дзеляцца сваёй вясновай радасцю з гледачамі. Яны бралі ўдел у дабрачынных канцэртах, конкурсах ды фестывалях, мерапрыемствах, прымеркаваных да юбілеяў славутых суайчыннікаў... Госці з Аўстрыі, Афганістана, Даніі, Польшчы ды іншых краін засталіся задаволеныя знаёмствам з маладымі певунамі, а тыя давалі канцэрты ў Малдове, Прыбалтыцы, Расіі, Польшчы ды іншых краінах.

Два дзесяцігоддзі для мастацкага калектыву – ладны ўзрост. З чым мы і віншуем талентаў з гнязда "Жавароначкаў".

## "Беларускай навуцы" — 80

Гэтае кніжна-часопіснае выдавецтва ( да 1963 года – "Навука і тэхніка") было ўтворана ў 1924 годзе ў Мінску пры Інбелкульце (папярэдніку беларускай Акадэміі навук). Яно выпускае самую розную літаратуру – навуковую, тэхнічную, навукова-папулярную, мастацкую, часопісы.

Да гэтага юбілею Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа НАН Беларусі наладзіла выставу, дзе можна пабачыць зусім рэдкія выданні, скажам, такія, як "Беларускі архіў" 1927 года, выдадзеную ў 1943 годзе ў Ташкенце кнігу "Памяці Янкі Купалы", самыя розныя фундаментальныя даследаванні, зборы твораў і творы класікаў нашай літаратуры, навуковыя перыядычныя выданні, цікавыя фотаматэрыялы.

## 130 манет – у музей

Нядаўна адразу некалькі газет змясціла матэрыялы пра багатыя леташнія археалагічныя знаходкі, а адно з выданяў заўважыла, што ў нас даўнія скарбы можна знайсці ледзь не на кожным кроку, як кажуць, літаральна пад нагамі. На тое ёсць свае прычыны: і наш край да 1917 года быў не такі бедны, як пра гэта пісалі, і ў цяжкія часы хаваў у зямлі свой набытак, і па нашай зямлі праходзілі шляхі-дарогі купцоў, вояроў і іншых, дык іхняе сёе-тое трапляла ў "зямельны банк".



Яшчэ раней, некалькі дзесяткаў гадоў таму, навагрудскі жыхар А. Пятрыка, перакопваючы рыдлёўкай зямлю на бацькавай сядзібе, знайшоў накрыты збанок. Зазірнуў у яго – там грошы. Здзіўлены шчаслівец не ўпадобіўся некаторым "археолагам", не прысвоіў знаходку сабе, не прадаў іншым, а перадаў спецыялісту. Той, вывучыўшы яе, таксама праявіў высакароднасць – перадаў 130 медных манет эпохі Рэчы Паспалітай у Навагрудскі краязнаўчы музей, каб наведвальнікі яго маглі пабачыць, што захоўвала іхняя зямля, якая ў XIII стагоддзі была падмуркам утварэння дзяржаўнасці на беларускай аснове.

## Гуканне вясны

Найбольш натуральна-прыроднай, усходнебеларускай старажытнай спеўнай традыцыяй, якая аб'ектыўна ўзнікла і гучыць там, дзе ўзыходзіць сонца, – на Падняпроўі, з'яўляецца Гуканне вясны. Абстрактнае для старажытных людзей паняцце надыходу вясны звязвалася з прылётам птушак з выраю, і таму іх "клікалі – гукалі":

*Жавароначкі, прыляціце – у – у – у – у!*
*Вы нам лецечка прынясіце – у – у – у – у!*
*А зімачку забярыце – у – у – у – у!*
*Бо нам зімачка надаела – у – у – у – у!*
*Усе хлебушкі пераела – у – у – у – у!*

Кароценькія гукальныя песенькі-вяснянкі па старажытнай веры ў магічную сілу песеннага слова, падмацаванага на высокіх узгорках палётным, прызыўным, прыгожа працяжным гукам "у - у – у", сталі адной з трох самабытных з'яў спеўнай культуры беларусаў. Яны рэхам адбіваліся на пакрытых лесам узгорках, на вільчыках гумнаў і атрымалі назву "Гукання вясны". Гукальныя інтанацыі гучалі ў веснавых мелодыях ужо ў стрэчанскіх карагодах 15 лютага, накшталт "А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне". Апошні раз яны прарываліся ў юраўскіх песнях (6 мая) – "Выйду на вулку – бычкі бушуюць, ой, Юр'я, Юр'я, бычкі бушуюць!". Першае калектыўнае Гуканне вясны пачыналася ў апошні дзень Масленкі і дасягала сваёй кульмінацыі на Звеставанне – 7 красавіка.

Здзіўляючы прыгажосцю тэкста і мелодыі, узор заспявала аўтару ў 1981 годзе ў вёсцы Казацкія Балсуны Веткаўскага раёна 50-гадовая Ганна Суднека, дзе "гуканне" гучыць у сярэдзіне радка:

*Песенька мая хароша ... у-у-у!... харошая.*
*Схаваю цябе к налецяй ... у-у-у!... к налецяйку.*
*Да к налецяйку, к Ушэсцяй ... у-у-у!... Ушэсцяйку.*
*Паеду ў поле із сахо ... у-у-у!... сахою.*
*Вазьму песеньку з сабо ... у-у-у!... з сабою.*
*Буду поле ярава ... у-у-у! яраваці.*
*Буду песеньку яму спява ... у-у-у!... спяваці.*

А ў вёсцы Паляшчыцы Горацкага раёна пашанцавала сустрэцца яшчэ з дзесяткам іншых тыпаў гукання: акрамя названых, на пачатку радка, на пачатку і ў канцы, на пачатку, пасярэдзіне і ў канцы, пасля двухрадкоўя і шматлікія іншыя варыяцыі. Групы спевакоў размяшчаліся на пакрытых лесам горках. Гуканне пачыналася з самага ўсходняга і гучным рэхам перакідвалася на наступныя – так нараджаліся на прыроднай аснове магутныя, натуральныя харавыя спевы. Спевы вяснянак і гукальных карагодаў на горках па ходу сонца суправаджаліся падкідваннем уверх падрыхтаванага печыва ў выглядзе жаўрукоў, кулікоў, буслоў, што павінна было, як і спевы, зрабіць жадаемае рэальным – выклікаць хутчэйшы надыход вясны, "бо ўжо зімачка надаела, усе хлебушкі пераела".

*(Заканчэнне на стар. 2)*





# Гуканне вясны

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Гуканне вясны ў роднай вёсцы Церабяжоў Столінскага раёна ператваралася (вы не паверыце!) у магутны спеў пяці вёсак, размешчаных па берагах рэчкі адна ад адной за 2–3 кіламетры. Усёй Беларусі вядомы магутны разліў прыкарпацкай Гарыні на Цэнтральным Палессі. У гэты веснавы час спевакі выходзілі да вады і пачыналі:

*Дай ужо ж вясна, дай ужо ж красна,*
*Із стрэх вада капле, із стрэх вада капле,*
*Дай із стрэх вада капле.*
*Ужо ж табе, казача, ужо ж табе, саколе,*
*Вандрованька пахне, вандрованька пахне,*
*Дай вандрованька пахне.*
*Ой, паплыў човен, дай вады повен,*
*Вада не схітнецца, вада не схітнецца,*
*Дай вада не схітнецца.*
*А ўжо ж табе дзеўча, а ўжо ж табе, красна,*
*Маладосць мінецца, маладосць мінецца,*
*Маладосць мінецца.*

Іх спевы падхоплівалі і прадаўжалі гурты спевакоў іншых вёсак па берагах Гарыні: Ніжні Церабяжоў, Бухлічы, Варані і нават недалёкага суседняга ўкраінскага сяла Гарадзішча (дзіўна, што да вядомых палескіх меліярацыйных эксперыментаў вёскі не тапіліся, як цяпер).

Апісаныя веснавыя спевы-гуканні ператвараліся ў прыродны мнагагалосы хор радасці людзей ад веснавога абуджэння прыроды, а не сённяшняга паўсядзённага страху, што затопіць. Перакананы, што менавіта такая форма спеваў нарадзіла найвышэйшую па сіле эстэтычнага ўздзеяння традыцыйную форму мастацтва – палескую падгалосачную культуру спеваў, якой захапляецца ўвесь фальклярыстычны свет. Дарэчы, аналагічна ўзнікла на гістарычнай Полаччыне трэцяя кананічная ўнісонная форма спеваў, калі наступная група спевакоў прадаўжае папярэднюю.

Такім чынам, эстэтычнае ўспрыняцце чалавекам прыгожасці веснавога росквіту прыроды ператварыла цудоўную старажытную людскую веру ў магічную сілу слова, у песенную магію – прыгожымі вяснянкамі і карагодамі клікаць, зваць, гукаць вясну. Абстрактнае паняцце надыходу вясны людзі ўвасобілі ў вобразе прыгожай жанчыны, якая "едзе на сасе, у зялёным саяне, адной рукой аручы, а другой сеючы". У традыцыйнай культуры старажытных ліцьвінаў-беларусаў вясна, як заканамерны час новых надзей, чаканняў, спадзяванняў, спарадзіла выдатна распрацаваныя ў вялікай колькасці мастацкія формы – стрэчанскія і масленкавыя карагоды, звеставальныя заклічкі-звароты да птушак, татэмны рытуал Камаедзіцы, гімнічныя, жыццёсцвярджальныя валачобныя і юраўскія песні, саракадзённыя супрацьмаланкавыя карагоды ваджэння і пахавання Стралы.

**Васіль ЛІЦЬВІНКА,**
*фальклярыст*



Гуканне вясны ў мінскім парку імя М. Горкага. [illegible] г.

Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА

## Рыбакі-прызёры

Вызначаліся ў лютым ва Уздзенскім раёне на Лошанскім вадасховішчы, дзе сабралася каля 40 аматараў рыбнай лоўлі з пяці абласцей, якія цярпліва сядзелі каля палонак два дні, па тры гадзіны ў кожным туры.

Рыбацкая ўдача ўсміхнулася спаборнікам са сталічнай вобласці – пры гэтым дзве каманды, якія ўдзельнічалі ў своеасаблівай рыбалцы, занялі першае і другое месцы. Трэцімі па рыбацкім спрыце былі віцебчане.

Выявіўся і галоўны спецыяліст – чэмпіён па "размове" з "залатой рыбкаю", ім другі год запар стаў Пётр Нагула, які злавіў болей двух кілаграмаў акунёў, плотак і яршоў.

## Памежныя воды – найперш вялікая каштоўнасць

Такую простую, але мудрую думку пацвердзілі прыродаахоўчыя ведамствы Беларусі і Польшчы на сумеснай сустрэчы ў Брэсце.

Суседзі не толькі паразважалі на гэты конт, але і ўручылі адзін аднаму свае планы выкарыстання памежных вод, планы рэканструкцыі і абладжвання памежных водных сістэм, што дапаможа і палепшыць справу, і мець сумесную карысць.

Ёсць задума адкрыць суднаходны водны шлях, што праз Заходні Буг злучыць Прыпяць і Віслу, утварыць прыродную рэзервацыю "Заходняе Палессе", а таксама надзейную гідрасістэму, што забяспечвала б памежжу экалагічную чысціню.

## Да 1 мая і да 1 верасня

Наша чалавечае сэрца ўспрыймае боль за бяду, дзе б яна ні здарылася. Усюды, дзе заўчасная смерць, раны, кроў, слёзы ад наўмысных ўзрываў ці выпадковых аварый, прыродных стыхій, – гора ёсць гора. Пацярпелым трэба спачуваць і памагаць.

Хто з нас, скажам, не перажываў за трагедыю, што здарылася ў краснапольскай сярэдняй школе № 1?

Як стала вядома, уся патрэбная работа па аднаўленні гэтай школы ідзе поўным ходам і павінна быць закончана да 1 мая гэтага года. Але навучэнцы пачнуць займацца ў ёй з 1 верасня. І правільна. Час патрэбен нават на псіхалагічную раўнавагу. Пакуль што навучэнцы з СШ № 1 займаюцца ў СШ № 2 г. Краснаполля.

## Кнігу – і вайскоўцу

Які ўжо год на нашых кніжных прылаўках мноства самых розных кніг. Але шмат не набудзеш, дый і не варта імкнуцца да гэтага, бо не проста многа, але і зашмат літаратуры, якую раней называлі маскультурай, – прадукцыя нізкага духоўнага і мастацкага ўзроўню.

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, безумоўна, захоўваюцца кнігі высокага ўзроўню. Нядаўна яе супрацоўнікі, мабыць, рыхтуючыся да пераезду ў новы будынак і пераглядаючы свае набыткі, вырашылі падзяліцца імі з Узброенымі сіламі краіны. Нашы абаронцы атрымалі больш за дзве тысячы тамоў самай рознай літаратуры – класікі, сучасных твораў, кніг па мовазнаўстве, культуры, мастацтве, медыцыне.

# Свята метралогіі

***Метралогія як навуковы прадмет складвалася здаўна, вызначаючы і вывучаючы афіцыйныя і бытавыя меры (адзінкі) даўжыні, плошчы, аб'ёму, масы (вагі), адзінкі лічэння ў іх гістарычным развіцці.***

***У кожнага народа гэты працэс праходзіў па-свойму; былі і ёсць свае назвы вызначэнняў. Метрычная канвенцыя 1875 года ў Парыжы паспрабавала, па-сённяшняму кажучы, глабалізаваць гэты працэс, праз уніфікацыю заканадаўстваў прыйсці да агульных паняццяў. У 1960 годзе большасць краін свету пагадзіліся перайсці да Міжнароднай сістэмы адзінак вызначэння, а ў 1999-м была падпісана дамова па ўдасканаленні іх.***

Лічыцца, што беларускай метралогіі 80 гадоў, з утварэннем у нас 29 лютага 1924 года Палаты мер і вагаў. Сёння ёсць Беларускі дзяржаўны інстытут метралогіі, дзейнічае дзяржаўная праграма "Эталоны Беларусі", па якой мадэрнізуецца 36 эталонаў, з іх 23 ужо зацверджаныя. Напрыклад, летась былі зацверджаны эталоны трох адзінак: колькасць цяпла і расходу вады, даўжыні хваляў лазера, гукавога ціску ў паветраным асяроддзі. Гэтыя эталоны прызнаныя ў СНД, даводзяца да міжнародных нормаў. Летась Беларусь стала членам Генеральнай канферэнцыі мер і вагаў, падпісала некаторыя дамовы, што будзе спрыяць пастаўцы беларускіх тавараў за мяжу.

Сродкі вымярэння ёсць на кожным заводзе, вышэйназваны інстытут захоўвае базавыя, эталонныя адзінкі, згодна з якімі праводзяцца ўзгадненні. У год працэс праверак, атэстацыі і каліброўкі праходзяць звыш мільёна розных прыбораў. Без гэтага цяжка гаварыць пра забеспячэнне міжнародных патрабаванняў якасці матэрыялаў.

На Беларусі здаўна былі свае меры, іхнія назвы, з якімі лічыліся і за яе межамі. Думаецца, нашым чытачам, асабліва тым, хто хоча глыбей ведаць нашу гісторыю, краязнаўства, варта нагадаць іх:

**Мера даўжыні.** Міля = 5 вёрст; вярста = 798 сажняў = =1559,7 м; вярста вялікая = =1000 сажняў = 1948,8 м; сажань = 194,88 см; шнур = 75 локцяў = 10 прутоў (прэнтаў) = = 100 прэнцікаў = 48,7 м; локаць = 64,96 см; стапа = 12 цаляў = 32,5 см; цаля = =2,7 см; гоні (гон) = 80–100 м.

**Мера плошчы.** Валока = =30 маргоў = 9 000 кв. прутоў = = 67 500 кв. локцяў = 21,36 га; морг = 3 кв. шнуры = 0,71 га; шнур = 100 кв. прутоў = 0,237 га; прэнцік = 0,237 кв. метра.

**Меры аб'ёму.** Бочка віленская = 4 чвэрці = 8 асьмін = =72 вялікія гарцы = 144 малыя гарцы = 406,7 л (для сыпкіх рэчываў) і 406,54 л (для вадкіх рэчываў); гарнец малы (шынковы) = 2,8237 л; гарнец вялікі (цэхавы) = =5,6474 л; чвэрць (карэц) = 1/4 бочкі = 2 асьміны = 36 гарцаў = = 102 л; кварта = 1/4 гарца = =0,7057 л; мядніца = 12 гарцаў = = 33,84 л.

**Меры масы (вагі).** Беркавец = 5 камянёў = 200 фунтаў = = 74,96 кг; камень = 40 фунтаў = 14,993 кг; фунт = 32 лоты = 374,8 г; пуд = 40 –50 фунтаў; бязмен = 5–6 фунтаў = =1,87–2,24 кг; кантар = 100 фунтаў = 37,48 кг; грыўна = 195,5 г.

**Адзінкі лічэння.** Капа = =60; саха (валы, нарогі для сох) = = 2; пасма (у ткацтве) = 30 нітак; лібра = 25 аркушаў паперы; рэз = 20 лібраў = 500 аркушаў паперы; тузін = 12, фаска = 500.

У розных мясцовасцях Беларусі ў розныя часы былі і свае адрозныя меры, але пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай, ліквідацыі Вялікага княства Літоўскага і далучэння да Расійскай імперыі многія даўнія беларускія меры пачалі адмяняцца і падтасоўвацца пад царскія. Толькі некаторыя з іх захоўваліся ў памяці народнай, літаратуры да 1924 года (у Заходняй Беларусі да 1939-га.).

У царскія і савецкія часы, каб пахаваць саму думку пра былую дзяржаўнасць беларускіх зямель у складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, таксама былі ліквідаваны даўнія беларускія назвы, найменні сваіх тэрытарыяльных адзінак, дзяржаўных пасад, розных сходаў і пасяджэнняў, вайсковых чыноў і г.д.

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

# Моладзі – гістарычную памяць, мужнасць, подзвігі

Усё гэта ў пэўнай ступені азначае выхаванне ў маладога чалавека пачуцця грамадзяніна, патрыёта, працаўніка ва ўсіх сферах, духоўнага чалавека, які павінен жыць не толькі сваімі карыслівымі інтарэсамі, але і інтарэсамі Бацькаўшчыны – краіны Рэспублікі Беларусь, якую павінны ведаць у свеце не толькі поспехамі спартсменаў, часамі запрошаных (прыкупленых) збоку за немалыя грошы. Гэта – таксама пэўны ход, але ён часовы, паказны, трэба найперш усюды ўсяго дабівацца самім – зразумела, вучачыся на лепшых сусветных узорах і дасягаючы іх. Як у літаратуры рабілі гэта Янка Купала і Якуб Колас ці зусім яшчэ нядаўна – Васіль Быкаў. І нам годна, і свету цікава.

Бясспрэчна, у Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь да моладзі свая ўвага: сённяшнія юнакі – гэта касцяк заўтрашняга нашага войска, яго афіцэры і генералы, урэшце мужчыны, будучыя бацькі, грамадзяне, на плечы якіх ускладзецца немалая ноша, будучыня нацыі. Мабыць, і пагэтаму нядаўна ў мінскім Доме афіцэраў адбылася не зусім звычайная сустрэча, на якую прыбылі многія навучэнцы з усіх абласцей і сталіцы, ветэраны Другой сусветнай вайны, прадстаўнікі Міністэрства абароны на чале з міністрам. Ён адкрыў сустрэчу, падзяліўся сваімі думкамі пра Другую сусветную вайну, пра ўсечалавечую значнасць перамогі над антычалавечай ідэалогіяй – фашызмам, зазначыўшы, што свой вялікі ўклад ў Перамогу зрабіў і беларускі народ, панёсшы дзеля яе вялікія ахвяры і страты. Ужо адно толькі тое, падкрэсліў міністр, што больш за 800 тысяч нашых землякоў загінула на полі бою, а больш за 2 мільёны мірных насельнікаў – старых, маладых, дзяцей – былі знішчаны захопнікамі, гаворыць вельмі шмат усяму свету. Гэтыя амаль 3 мільёны – вялікая частка нашага люду, яна магла б пабольшаць наш народ, павялічыць нашы дасягненні. Паняць пра мінулую вайну, пра загінулых, пра тых, хто пасля падымаў краіну з руін і папялішчаў, хто зарана памёр ад ран і перажытага – гэта не проста памяць, гэта – ужо з нараджэння, з садка, са школы ідэя любові да Бацькаўшчыны, заклік адстойваць яе і па ўсіх напрамках рабіць усё, каб яна была моцнай і квітнеючай.

На сустрэчы выступілі ветэраны Другой сусветнай вайны, якія падзяліліся сваімі ўспамінамі, удыхнулі ў юнакоў, як кажуць, патрыятычны, байцоўскі дух абаронцаў сваёй Радзімы.

Дзякуй даўнім і новым сябрам нашай газеты! Мы радыя, што нас становіцца болей. Давайце ж пашыраць нашую сябрыну – падпісацца на газету можна з любога месяца. Не губляйцеся ў вялікім свеце сучаснай мітусні!

**Падпісныя індэксы і кошты:**
**індывідуальны** – 63320 (3 300 рублёў на месяц), **ведамасны** – 633202 (3 409 рублёў на месяц).

*"... і дзякуй скажа родны край"*



# Шчыры руплівец на ніве народнай

## Кастусю Цвірку – 70

Беларускі паэт, фалькларыст і выдавец Кастусь Цвірка нарадзіўся ў цэнтры Беларусі ў вёсцы Зялёная Дуброва Старадарожскага раёна ў 1934 годзе. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта ў 1956 годзе настаўнічаў у вёсцы Труханавічы Капыльскага раёна, працаваў у райгазеце "Рудзенская праўда", на Беларускім радыё, з 1972 года – у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, дзе і абараніў дысертацыю на званне кандыдата гістарычных навук. З 1981 года Кастусь Цвірка плённа працуе ў выдавецтве "Юнацтва", а з 1984 – у часопісе "Полымя". Вершы пачаў друкаваць у 1953 годзе, выдаў зборнікі "Такія сэрцы ў нас" (1959), "Бягуць ручайкі" (1962), "Чарназём" (1967), "Каласы" (1975), "Сцежка дадому" (1980), "Хат вячысты дар" (1982), "Рэха дарог" (1982) і іншыя. Вершы Цвіркі поўныя матываў вяртання дадому, да родных вытокаў, роднай вёскі з яе натуральнай прыгажосцю, духоўна багатымі, крыштальнай маральнай чысціні людзьмі, у песнях якіх гучыць высокая паэзія і шчымлівая лірыка. У апошні час больш выступае як літаратуразнавец і фалькларыст. Даследуе творчасць Уладзіслава Сыракомлі (нарыс "Дарога ў сто год" – 1974, манаграфія "Слова пра Сыракомлю" – 1975), Адама Міцкевіча, Яна Чачота (кнігі нарысаў "Той курган векавечны" – 1985, "Лісце забытых алеяў" – 1989), укладальнік тома ў зводзе БНТ "Вяселле. Абрад" (1978), сааўтар манаграфіі "Беларуская фалькларыстыка. Эпоха феадалізму" (1989). Яшчэ ў 1996 годзе Кастусь Цвірка стварыў Міжнародны грамадскі фонд "Беларускі кнігазбор" і распрацаваў у двух серыях – мастацкай і гісторыка-літаратурных помнікаў – яго выданне ў двухстах тамах. Як укладальнік, перакладчык, аўтар прадмовы і каментарыяў, ён пачаў гэтую серыю кнігай "Ян Чачот. Выбраныя творы" (1996). У ёй упершыню ў перакладзе Кастуся Цвіркі былі абнародаваны 24 з 55 гісторыка-мастацкіх балады Яна Чачота "Спевы пра даўніх ліцьвінаў да 1434 года", якія для аўтара гэтых радкоў на дзесяцігоддзе сталі прадметам захаплення і цяпер закончыліся асобным выданнем з нотамі, выявамі ліцьвінскіх князёў і грунтоўным каментарыем другога перакладчыка Станіслава Судніка. Цяпер у серыі ўжо выдадзена 27 кніг. Большасць з іх адкрываюць новыя старонкі багатай гісторыі, самабытнасці культуры, аднаўляюць славутыя імёны нашай Бацькаўшчыны. Бясцэнныя, напрыклад, у кнігазборы тамы "Беларускія летапісы і хронікі" (1997), "Вацлаў Ластоўскі" (1997), "Філаматы і філарэты" (1998), "Беларусы" Яўхіма Карскага (2001) і ўсе астатнія. Акрамя таго, у выдавецтве "Беллітфонд" Кастусь Цвірка распрацаваў серыйныя выданні "Беларускі гістарычны раман" і "Мастакі Беларусі". Аўтара гэтых радкоў Кастусь Цвірка ўразіў сваёй незвычайнай навуковай эрудыцыяй і дапытлівасцю, асабліва ў томе "Вяселле. Абрад" з цяпер ужо 45-томнага Зводу "Беларуская народная творчасць" і грунтоўнай калектыўнай гістарыяграфічнай манаграфіі "Беларуская фалькларыстыка. Эпоха феадалізму" (1989), рэдкай шчырасцю і лірызмам, якая выцякае з глыбінь народнай душы ў паэзіі і нарысах. Сапраўды, вялікая праца такіх незвычайных людзей, як Кастусь Цвірка, ва ўсёй яе шырыні бачыцца на адлегласці і залатымі літарамі будзе ўпісана ў гісторыю культуры нашага народа. Цяпер жа пажадаем выдатнаму беларусу здароўя, плёну і добрага ўласнага самаадчування!

**Васіль ЛІЦЬВІНКА**

Сапраўды, кнігавыдавецкая справа Кастуся Цвіркі вартая самай высокай ухвалы. Мы пацікавіліся, як выспела, рэалізоўваецца яго задума такой высакароднай, але нялёгкай дзейнасці. Юбіляр адказаў так:

*Яшчэ ў часы, калі я працаваў над дысертацыяй пра Уладзіслава Сыракомлю і вывучаў матэрыялы яго часу, убачыў, якую багатую і цікавую літаратуру мелі мы ў XIX стагоддзі. Але літаратуразнаўцы гвалтоўна выключылі з яе самыя славутыя імёны на той падставе, што яна стваралася спачатку на польскай, а потым на рускай мовах. Але ж тады пісьменнікі Беларусі, каб расказаць пра свой народ, пра сваю Бацькаўшчыну, вымушаны былі пісаць творы па-руску ці па-польску. Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, Эліза Ажэшка, Ян Баршчэўскі, Ігнат Ходзька, Адам Плуг, Павел Шпілеўскі, Якуб Брайцаў... Як збядняілі мы сябе, адгарадзіўшыся ад іх! Вярнуць гэтыя слынныя імёны ў нашу літаратуру, вярнуць усё самае значнае са шматвяковай літаратурнай спадчыны – такая была задума. Як наладжвалася ажыццяўленне гэтай задумы – асобная тэма. Скажу толькі, што мне пашчасціла знайсці шчырага маладога энтузіяста Генадзя Вінярскага, з якім (а таксама з Марынай Адамовіч) мы займелі выдавецкую ліцэнзію, стварылі Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Беларускі кнігазбор". Дарэчы, назву падказаў нам Анатоль Клышка.*

*Скажу крыху пра творчы бок працы. Для падрыхтоўкі тамоў серыі мы запрашаем лепшых спецыялістаў. Усе тамы "Беларускага кнігазбору" плануем з часам перавыдаць, дапрацаваўшы іх і ўдасканаліўшы. Таму будзем рады любой «канструктыўнай» і непрадузятай крытыцы. Рыхтую яшчэ адну сваю кнігу – зборнік падарожных нарысаў, што напісаліся ў выніку шматлікіх паездак па мясцінах паэтаў XIX стагоддзя – Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Тамаша Зана, Яна Баршчэўскага, Тадэвуша Лады-Заблоцкага, Пяўлюка Багрыма, Уладзіслава Сыракомлі, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча. Думаю, яна будзе цікавая не толькі знаўцам, але і маладому творчаму пакаленню.*

**Гутарыў Яўген ХВАЛЕЙ**



З маці Надзеяй Канстанцінаўнай

Фота Сяргея ПАНІЗЬНІКА

**"Краязнаўчая газета" шчыра і сардэчна далучаецца да цёплых слоў пра юбіляра, жадае яму здароўя, добрага настрою і новых плённых творчых удач!**

Галоўнаму рэдактару "Краязнаўчай газеты" У. А. Гілепу

Паважаны Уладзімір Аляксандравіч!

Супрацоўнікі Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея з'яўляюцца актыўнымі чытачамі "Краязнаўчай газеты". На яе старонках мы знаходзім цікавыя матэрыялы па гісторыі і культуры розных куткоў Беларусі, у тым ліку і Магілёўшчыны. У сваю чаргу прапануем творчымі сіламі нашага калектыву падрыхтаваць для публікацыі ў Вашай газеце цыкл артыкулаў, прысвечаных нашаму рэгіёну. Калі яны зацікавяць рэдакцыю, то мы гатовы ў сціслыя тэрміны напісаць іх і даслаць да Вас. Накіроўваем для ўзгаднення тэматыку і кароткія анатацыі артыкулаў:

1. Сёдзін А. А. "Гарадзішчы наваколля Магілёва" (умацаваныя паселішчы эпохі ранняга жалеза і сярэднявечча: агульная характарыстыка помнікаў і эпохі, тапаграфія, гісторыя вывучэння, знаходкі).
2. Клімуць Ж. Я. "Ганчарства Магілёўшчыны" (развіццё і асаблівасці ганчарства гісторыка-этнаграфічнага рэгіёна ў XIX – пачатку XX стагоддзяў).
3. Тарасава М. А. "Аляксандр I у Магілёве" (наведанне Аляксандрам I Магілёва ў чэрвені 1802 г. і агляд ім фанагарыйскага палка).
4. Фядосенка М. Р. "З гісторыі Буйніцкага Святадухава манастыра" (існаваў у 1633–1918 гг. Належыць да праваслаўных, спачатку быў мужчынскім, а з 1835 г. – жаночым).
5. Рыбакова С. Б. "Касцюм Магілёўшчыны" (асаблівасці касцюма гісторыка-этнаграфічнага рэгіёна Падняпроўе ў XIX – пачатку XX стст.).
6. Даўляшэвіч А. В. "Дваране Магілёўшчыны" (з гісторыі дваранства Магілёўскай губерні).
7. Кандрацьева Л. Ф. "Магілёўскія летапісы аб незвычайных прыродных з'явах і здарэннях" (прыродныя катаклізмы і стыхійныя бедствы апошніх стагоддзяў у Магілёве).
8. Томчык Л. Л. "Першая сусветная вайна на Магілёўшчыне" (знаходжанне ў Магілёве з 8 жніўня 1915 г. цара Мікалая II і Стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага расійскай арміі).
9. Тарасава М. А. "Магілёўскі губернатар С. К. Вязміцінаў" (другі Магілёўскі губернатар (1777 г.) – асоба творчая і неардынарная).
10. Ю. Рыбакова С. Б. "Ручнік Магілёўшчыны" (асаблівасці ручніка гісторыка-этнаграфічнага рэгіёна Падняпроўе XIX – пачатку XX стагоддзя і яго месца ў паўсядзённым жыцці і святах).

Адначасова пісьмом высылаем Вам першы, падрыхтаваны ўжо артыкул Жаны Клімуць "Ганчарства Магілёўшчыны".

З найлепшымі пажаданнямі!

***А. СЕДЗІН,***
***намеснік дырэктара Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея па навуковай рабоце***

**Ад галоўнага рэдактара "Краязнаўчай газеты".** Глыбокашаноўныя калегі і сябры, мы можам з прыемнасцю сказаць толькі адно: дзякуем за такую зацікаўленую ўвагу, чакаем вашых матэрыялаў і аднясёмся да іх таксама ўважліва.

**Вось так трэба!**

## Шчучынцы турбуюцца пра свой горад

Шчучын вядомы з XVI стагоддзя як мястэчка ў Лідскім павеце. Ім валодалі Радзівілы, Сцыпіёны, Друцкія-Любецкія (да слова, у 1897 годзе згодна з перапісам ў ім было 1742 жыхары). Пазней, у складзе Польшчы, ён – горад, цэнтр павета. У савецкі час найменне горада яму было пацверджана ў 1962 годзе.

У Шчучыне ёсць некалькі буйных прамысловых прадпрыемстваў (у савецкі час тут на ваенным аэрадроме знаходзіліся адны з самых новых самалётаў). З помнікаў архітэктуры – касцёл Тэрэзы (з 1829 года) і палац, пабудаваны ў другой палове XVIII стагоддзя на ўскраіку горада. Належаў падскарбію літоўскаму Шчуку, з пачатку XIX стагоддзя – Друцкім-Любецкім.

Палац двухпавярховы, мураваны, на высокім цокалі, сіметрычны. У цэнтры – больш нізкая частка з мансардай, вырашаная ў выглядзе лоджыі з дзвюма іанічнымі калонамі, па баках – двухпавярховыя пабудовы, раскрапаваныя пілястрамі.

На вялікі жаль, як і іншыя недагледжаныя помнікі гісторыка-культурнай спадчыны, палац разбураецца пад націскам часу і прыродных умоў – найперш з-за таго, што цячэ дах.

Шчучынцы затурбаваліся захаванасцю палаца, утварылі ініцыятыўную групу, склалі адпаведную дакументацыю і пачалі праводзіць канкрэтную работу, у тым ліку і па зборы сродкаў ад арганізацый, спонсараў, насельніцтва. Як лічыць старшыня ініцыятараў Уладзімір Глаз, палац набудзе былую сваю красу, і ў ім знойдуць прытулак музей, цэнтр творчасці дзяцей і моладзі.

Добры, нават выдатны прыклад шчучынцаў!



Помнік народнага драўлянага дойлідства XVIII ст. – царква ў в. Гарадная Столінскага раёна

Фота Ігара ГРЭЧКІ

## Новыя кнігі

Беларуска-рускі слоўнік: У 3 т. Пад рэд. А. Падлужнага. Мн.: БелЭн, 2003.

Газеты Беларусі: 1776–1975 гг. Бібліяграфічны даведнік. Нац. кніжная палата Беларусі. Мн., 2003.

*Грибенчук С., Полонский А.* Тайны Беловежской пущи: Это было при нас. Брест, 2003.

*Дубянецкі Э.* Культаралогія. Энцыклапедычны даведнік. Мн.: БелЭн, 2003.

*Кісялёў Г.* Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн.: Бел. навука, 2003.

*Ластоўскі В.* Кароткая энцыклапедыя старасвеччыны. Мн.: Выдавец В. Хурсік, 2003.

Міфалогія. Духоўныя вершы. Мн.: Бел. навука, 2003.

*Міцкевіч А.* Гражына: Вершы і паэмы. Мн.: Маст. літ., 2003.

*Міхальчук М.* Венерчын чаравік сапраўдны ў Берасьцейскім і Прыпяцкім Палессі. Брэст, 2002.

*Мрый А.* Запіскі Самсона Самасуя. Мн.: Маст. літ., 2003.

*Пичета В.* История белорусского народа. Мн.: Изд. центр БГУ, 2003.

*Парашкоў С.* Гісторыя культуры Беларусі. Мн.: Бел. навука, 2003.

Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Метрыка ВКЛ. Кніга 523. Мн.: Бел. навука, 2003.

*Плотнікаў Б.* Беларускае слоўніцтва: Вучэбны дапаможнік. Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Мн., 2003.

Слоўнік мовы "Нашай нівы": У 5 т. Т. I. Мн.: Тэхналогія, 2003.

*Слюнькова И.* Монастыри восточной и западной традиции: Наследие архитектуры Беларуси. М.: Прогресс–Традиция, 2002.





*Успаміны ветэрана краязнаўчага руху*

# Незабыўныя дні

***25 снежня 1989 года я, як і іншыя, з вялікім хваляваннем прыехаў у Мінск, каб ажыццявіць даўнюю мару краязнаўцаў – сабрацца, як і ў 1920-я, разам на сваёй канферэнцыі па краязнаўстве. 26 снежня гэты рэспубліканскі форум быў пераўтвораны ў з'езд. Усё праходзіла ў Мінску, у Доме літаратара.***

У фае была наладжана адпаведная выстава і продаж гісторыка-краязнаўчай літаратуры, газет недзяржаўных выданняў, фотавыстава, прысвечаная развітанню з акадэмікам А. Сахаравым.

Актавая зала пасяджэнняў была ўпрыгожана партрэтамі вядомых беларускіх вучоных, гісторыкаў, дзеячаў – братоў Антона і Івана Луцкевічаў, Язэпа Лёсіка, А. Смоліча, Зм. Жылуновіча, А. Чарвякова і інш. На сцэне – скарынінскае дрэва. На канферэнцыю "Праблемы беларускага краязнаўства" прыехалі дэлегаты з усіх куткоў Беларусі і СССР, дзе гуртам пражывалі беларусы: Карэліі, Прыбалтыкі, Урала, Ленінграда і Масквы. Усе былі забяспечаны жыллём – гасцініцай, на месцы аплочваліся камандзіроўкі тым, каму не маглі аплаціць па месцы працы. Склад удзельнікаў канферэнцыі быў даволі стракаты: навукоўцы, студэнты, рабочыя, прадпрымальнікі, настаўнікі, пісьменнікі, журналісты і г.д. Забягаючы наперад, скажу, што выступленне аматара-краязнаўцы, цесляра з Віцебскай вобласці, здаецца, з Браслаўшчыны (на жаль, не помню яго прозвішча) прыемна ўразіла ўсіх. Міхась Ткачоў, вядомы гісторык і археолаг, ведучы пасяджэнне, заявіў: "Калі б у кожным раёне быў такі аматар-краязнавец, то мы няздрэнны будынак краязнаўства пабудавалі б на Беларусі".

Усе дэлегаты атрымалі папкі з наборам – блакнот, самапіска, каляндарык, памятка, праграма канферэнцыі, праграма Краязнаўчай камісіі Беларускага фонда культуры, статут Савецкага фонда культуры, праект статута Беларускага краязнаўчага таварыства.

Адкрыў канферэнцыю ў 10 гадзін старшыня праўлення БФК Іван Чыгрынаў. Затым пачаліся навуковыя даклады па праблемах краязнаўства. Па праблеме "Краязнаўства ўчора, сёння, заўтра" выступіў Генадзь Каханоўскі.

У першы дзень з дакладамі і паведамленнямі на канферэнцыі выступілі: Міхась Чарняўскі "Часопіс "Наш край" і адраджэнне краязнаўства", Міхась Ткачоў "Гістарычныя сімвалы нашага краю", Генадзь Кісялёў "Задачы краязнаўства ў выданні кніг "Памяць", Адам Мальдзіс "Краязнаўства на сутоку навук". У другой палове дня былі заслуханы паведамленні "З вопыту работы краязнаўцаў". Усе жадаючыя выступілі, у тым ліку і я, па праблемах краязнаўства ў Краснапольскім раёне, пацярпелым ад аварыі на ЧАЭС. Для дэлегатаў былі паказаны і абмеркаваны дакументальныя кінафільмы краязнаўчай тэматыкі ("Беларусьфільм", студыя "Летапіс"). Канферэнцыя праходзіла ў бурлівы час перабудовы і дэмакратыі, БНФ, калі склалася сітуацыя: вярхі не маглі кіраваць па-новаму, а нізы не хацелі жыць па-старому. Многія выступленні ішлі пад бурныя воклічы залы: "Жыве Беларусь!" Упершыню мне прыйшлося бачыць і чуць такіх славутых людзей, як Зянон Пазняк, Генадзь Каханоўскі, Адам Мальдзіс, Міхась Чарняўскі, Генадзь Штыхаў, Уладзімір Арлоў, Вольга Іпатава.

Цёпла запомнілася гутарка з Міколам Ермаловічам, вядомым гісторыкам, аўтарам "Старажытнай Беларусі", тым болей, што яго родны брат Валянцін Іванавіч Ермаловіч быў маім настаўнікам у Магілёўскім культвучылішчы і добрым знаёмым па Краснапольшчыне, калі ён працаваў рэжысёрам народнага тэатра ў Краснаполлі. Пазнаёміўся я і са сваім земляком, супрацоўнікам рэдакцыі газеты "Прамень" Стаўбцоўскага раёна Сяргеем Галоўкам, цяпер ён вядомы краязнаўца Стаўбцоўшчыны. І не толькі яе.

На другі дзень работы канферэнцыі былі заслуханы розныя паведамленні, развагі і, як казаў ужо, прынята рашэнне пераўтварыць канферэнцыю ў з'езд, абраны аргкамітэт па стварэнні Беларускага краязнаўчага таварыства, праведзены круглы стол па праблемах краязнаўства. Для ўдзельнікаў канферэнцыі быў дадзены змястоўны канцэрт, прагледжана кінахроніка мінулых гадоў.

Пра праблемах стварэння БКТ – з чаго пачаць – многія лічылі, што трэба пачаць з выдання газеты (як і па Леніну: з чаго пачаць будаўніцтва партыі?) або з аднаўлення рэпрэсаванага краязнаўчага часопіса "Наш край". Добра, што хоць цяпер ажыццявілася адна з тых прапаноў, пачала выходзіць "Краязнаўчая газета".

Не абышлося і без казусаў. Нехта з маладых заявіў, што на з'ездзе прысутнічаюць агенты ЦК КПБ і КДБ. Зала насцярожана звярухнулася, і ўсе агледзелі адзін аднаго. Той жа голас праз узмацняльнік заявіў: "Гэта – Чыгрынаў". Іван Гаўрылавіч разгублена пакруціў галавой у прэзідыуме: навошта ж так? Будзьма разумнейшыя! На гэтым інцындэнт быў вычарпаны. Узнікла пытанне: як быць у сувязі з тым, што ўлады, асабліва ў Мінску і абласных цэнтрах, штрафуюць людзей, якія носяць значкі з бел-чырвона-белым сцягам і гербам "Пагоня". Мікола Ткачоў адказаў: "Квітанцыі аб штрафах прышпільваць на грудзі і насіць, як медаль".

27 снежня, на трэці дзень, быў абмен вопытам краязнаўчай работы і разгледжаны арганізацыйныя пытанні: была абрана Рада БКТ, прыняты пастанова і статут БКТ. Усе тыя дакументы захоўваюцца ў мяне, па прыездзе на сваю малую радзіму я даў інфармацыю аб БКТ у раённую газету "Чырвоны сцяг", і мы прадоўжылі працу па развіцці краязнаўства.

Нямала часу прайшло з першага з'езда БКТ, адбыліся сацыяльна-палітычныя змены: распаўся СССР, БССР стала Рэспублікай Беларусь, з'явіліся новыя сацыяльна-палітычныя рэаліі, а праблемы краязнаўства, на жаль, засталіся. І не толькі яны, але і шмат чаго іншага. Паўтаруся, на жаль, ажыццявіць задуманае 25–27 снежня 1989 года не ўдалося ў поўнай меры. Прычыны гэтаму і аб'ектыўныя, і суб'ектыўныя. У тым ліку дачасная смерць Генадзя Каханоўскага і Міколы Ткачова замарудзілі развіццё БКТ.

***Я станоўча адношуся да склікання новага з'езда БКТ. Зразумела, мэтазгодна скарыстаць напрацоўкі 1989 года, прыняць за аснову той статут БКТ, унёсшы ў яго змены і дапаўненні ў адпаведнасці з рэаліямі сённяшняга жыцця.***

***Будзем помніць мудрае выслоўе рымлян: "Жыццё кароткае, а Айчына вечная!"***

*Алесь МАРЗАЛЮК*



*У экспедыцыі па Беларусі: этнографы і фалькларысты А. Шлюбскі, М. Мялешка і М. Азбукін*

*Фота Льва ДАШКЕВІЧА, 1923 г.*

*Краязнаўчыя нататкі*

# Цехава

**Як для каго, а для мяне гучыць слоўка Цехава як музыка – музыка майго маленства, дзяцінства на Капыльшчыне.**

Калі хацелі малыя пакупацца, беглі ў Цехаву: пазбіраць парэчак – у Цехаву, палавіць рыбы – у Цехаву, нават наламаць бэзу – і то ў Цехаву.

А яшчэ нямала было аповедаў старэйшых – дзядоў, бацькоў – пра небяспечныя падзеі, якія адбываліся ў гэтым месцы, калі памежжа рэзала Цехаву надвое, дзяліла яе паміж Польшчай і Беларуссю. Росказняў аб падзеях, якія адбываліся там, у Цехаве, яшчэ перад Другой сусветнай вайной, было многа. То кантрабандыстаў там лавілі, то "сваіх ненадзейных" вывозілі далей ад мяжы. Ды калі і вывозілі, то не бліжэй за... Казахстан.

Цехава была мяжой і месцам... сустрэчы родных, сваякоў, якіх яна, мяжа, і падзяліла на беларусаў і палякаў. Людзі сыходзіліся на палетках, якія спаконвеку апрацоўвалі аднолькавымі прыладамі працы, тэхнічнымі прыёмамі, у адны і тыя ж дні для сяўбы, жніва.

Збіраліся кожны на сваім баку і чакалі, калі памежнікам надакучыць пазіраць на іх схіленыя да зямлі спіны і яны пойдуць патруляваць іншыя свае ўчасткі.

Вось тут і пачыналася... Трэба было за той час, пакуль няма вартавых, даць "поўную інфармацыю" пра падзеі, якія адбыліся ў вёсцы за апошні тыдзень: хто нарадзіўся ў сваякоў, хто памёр, хто ажаніўся ("Учора ў "нас" было чуваць, што ў "вас" музыка грала – відаць, вяселле было чыё?").

Усю гэтую "інфармацыю" (а канечне, і жыццёвыя звесткі) перадавалі (крычалі) на "іхні" бок вельмі хутка і моцна. Пры любым надвор'і яе павінны былі "ў іх" пачуць на адлегласці, якая складала больш за 50 метраў нейтральнай (ні беларускай, ні польскай) паласы.

Пакаранне за гэткае парушэнне мяжы вялікага не было. Калі памежнік на кані дагоніць, то, як казалі сяляне, "дасць гумы" – перацягне бізуном па спіне адзін ці два разы.

Горш было, калі на мяжу мае аднавяскоўцы збіраліся з іншаю мэтай. Усім вядома, што селянін заўсёды перад тым, як выконваць калгаснае заданне, імкнуўся апрацаваць свае палеткі: пасеяць, пасадзіць, скасіць, зжаць, выкапаць сваё. А потым ужо ісці працаваць у калгасе. Сацыялістычная перабудова на вёсцы і яе падмурак – калгасы – прымушала селяніна-калгасніка перш-наперш выконваць грамадскую работу, а потым працаваць на сябе, што, безумоўна, было не натуральна і не магло быць успрынята маімі аднавяскоўцамі: ва ўсім свеце сваё заўсёды тваё, каб ты быў асновай агульнага.

Слоўка "гналі" на работу як прыліпла ў тыя гады, так засталося, па-мойму, аж да 1960-х гадоў: прыйшоў брыгадзір і "пагнаў" на работу – фальклор, ды не толькі. Але ж "пагнаць" селяніна са свайго кавалка зямлі вельмі цяжка. Ён яе любіць, шануе, як след апрацоўвае, таму, бывае, як бык, упіраецца, не хоча, брыдкімі словамі брыгадзіра абзывае і... нарэшце ўжывае апошні аргумент: "Не гані, бо пайду на мяжу, крычаць буду". Гэта азначала інфармаваць "той бок" пра тое, як кепска жывецца "пры Саветах". Безумоўна, такую "палітыку" брыгадзір павінен быў абсякаць адразу, што ён і рабіў словамі: "... ідзі, ідзі, калі гумы ад памежнікаў захацеў". Пасля такой назвычай лёгкай пагрозы, спрэчка-сварка спынялася, бо ні брыгадзіру, ні бунтаўшчыку не хацелася, каб "антысавецкія настроі" выходзілі за межы сваёй вёскі. І селянін пакідаў сваё і пад прымусам ішоў да калектыўнага.

Але Цехава была не толькі такою, якою я яе запомніў з дзіцячых сваіх гадоў. Стаўшы ўжо дарослым, я нямала пра яе даведаўся, калі пачаў цікавіцца гісторыяй сваіх родных мясцін. Урочышча Цехава знаходзіцца на аднолькавай адлегласці ад трох вёсак Капыльскага раёна (былога Слуцкага павета): Навасёлкі, Піліпавічы, Вострава – у цэнтры вось такога трохкутніка. Усе тры вёскі старыя, бо іх назвы я знайшоў на картах сярэдзіны XVIII стагоддзя. Але што самае цікавае? На гэтых жа картах я знайшоў і "кропку" пад назвай Цехава. А карта... выдадзена ў Парыжы. Вось як! У Парыжы ведалі пра маю Цехаву, а ні на адной, нават ваеннай, карце савецкага часу яна не пазначана.

Што здарылася з Цехавою? Калі да яе знікла зацікаўленасць людзей?

Пачаў шукаць крыніцы, вывучаць гісторыю сваёй вёскі Вострава, з ёю і свой радавод, распытваў старых аднавяскоўцаў, сваю маму, якой ужо 87 гадоў, і яна шмат ведае з расказаў сваіх бацькоў – маіх прадзедаў.

І перш-наперш распытваў пра Цехаву, адкуль з'явілася і што гэта за назва? Дзякуючы намаганням супрацоўнікаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, знайшліся дакументы, якія сведчылі, што вёскі, якія знаходзіліся паблізу ад Цехавы, у тым ліку і маё Вострава, з'яўляліся маёмасцю вядомых на Случчыне і Капыльшчыне памешчыкаў Вайніловічаў і былі прыпісаныя да іх сядзібы – фальварка Цэхова (Цехава). Гэта – перад самай адменаю прыгоннага права ў 1861 годзе. А валодаў тады Ксаверы Вайніловіч у маёй вёсцы ўсяго 18 дварамі – столькі было ў Востраве, у якіх жыло 80 душ мужчынскага роду.

У самой Цехаве стаяў каменны (мураваны) дом (палацык) для паноў і найперш для "эканома" – нейкага сваяка пана Вайніловіча, які і вёў усе справы "эканоміі" – гаспадаркі. Дом быў з двух паверхаў: унізе жыла прыслуга, наверсе – гаспадары.

Памяць маёй мамы з аповедаў бабулі – Лізаветы Раманаўны Стасевіч – захавала ўспамін пра час з 1910 па 1917 гады, пра Цехаву і яе жыхароў, калі бабуля маладою і незамужняю вымушана была працаваць наймічкай ("каб зарабіць на пасаг"), прыбіральшчыцаю ў дзвюх пань – сясцёр самога эканома.

Успаміны бабулі захавалі і горыч ад той працы, якая была не такая і цяжкая, але патрабавала падпарадкавання і прыніжэння – відаць, вельмі ганарыстым і празмерна патрабавальным гаспадыням. Адна з іх па жыцці была інвалідам і вызначалася асабліва жорсткім характарам. Гэта (ці звычкі), якія засталіся ў некаторай часткі былых памешчыкаў, прыводзілі да выпадкаў адкрытых здзекаў над ужо вольнымі сялянамі.

Аднак час, які прайшоў пасля адмены прыгоннага права (лічыце, 50 гадоў. Мінула жыццё аднаго пакалення беларусаў), таксама пакінуў свой адбітак на іх свядомасці як людзей вольных. Між іншым, і само сямейнае выхаванне беларусаў як да, так і пасля адмены прыгоннага права будавалася на адчуванні сваёй годнасці, як чалавека і грамадзяніна. Таго "чорнага" прыгоннага права, якое панавала ў Расіі, на Беларусі, нават за часы ўваходжання ў склад Расійскай імперыі, не было.

Відаць, гэтыя "ганарлівыя" беларусы не выпадкова і бунтавалі ў 1830–1831, 1863–1864 гады, адчуваючы нязвыклы яму ўціск. Відаць, таму і бабуля мая, Лізавета, не захацела пад прымусам працаваць на паноў. Збегла яна, не атрымаўшы заробку, да каваля, кузня якога стаяла тут жа ў Цехаве. Праца ж у каваля была больш цяжкай. Але, як бабуля казала, "вольнай". Штодзень трэба было мыць кавалёва адзенне і сушыць у цёплай кузні. Але ж уявіце сабе, што гэтае грубае, цяжкое і бруднае адзенне 14-гадовая Лізавета павінна была менавіта штодзень вымыць у "лузе" (мыла і попел), выпаласкаць у ледзяной вадзе сажалкі Цехавы.

Што да самога маёнтка Цехава, то ён праіснаваў да таго часу, пакуль там жылі гаспадары. З'ехалі ж яны на "той" бок мяжы ў 1921 годзе, калі нас падзялілі на беларусаў і палякаў, на тых, хто жыў "на гэтым баку" і тых, хто жыў "на тым баку".

Хутка зніклі ўсе панскія пабудовы, іх разабралі па цаглінцы на печы і на іншае. Высеклі вялікі яблыневы сад... на дровы. Зарасла сажалка. І толькі кожную весну буйнымі гронкамі бэзу можна было вызначыць месца былога маёнтка Цехава. Ды яшчэ мы, дзеці, ужо пасля Другой сусветнай вайны ласаваліся там чырвонай ды чорнай парэчкамі.

Цехава засталася толькі на французскай карце XVIII стагоддзя...

***Уладзімір ГІЛЕП***

З юбілеем

# Родзічка



13 сакавіка 1934 года ў вёсцы Стральцы пад Гародняй нарадзілася Яўгенія, дачка Трафіма Сідаровіча. Сёння дзяўчыну Наднёмання мы ведаем як паэтку, перакладчыцу, сутворцу беларускай дыяспары ў Рызе і Санкт-Пецярбургу пад іменем Аўгінні Кавалюк.

Гартаю яе «Маўклівыя скарбы», углядаюся ў вершы са зборнікаў «Кропля бурштыну», «Імгненняў след». Паэзія радзімазнаўства Аўгінні Кавалюк – з незагойным болем і зюклівай пяшчотай – гэта «радасці і мары» чалавека, які вось ужо сорак пяць гадоў углядаецца ў Бацькаўшчыну з ускрайкаў яе духоўнага парубежжа: з беларускай Рыгі і ў многім збеларушчанага Санкт- Пецярбурга. Так творчая чыннасць Аўгінні Кавалюк становіцца яшчэ адным пратуберанцам сонечнай планеты Беларусь.

На доказ прапаную твор нашай суайчынніцы з незалежнай газеты піцерскіх беларусаў «Родзічы», якая выдаецца пад эгідай Саюза пісьменнікаў «Многонациональный Санкт-Петербург».

***Сяргей ПАНІЗЬНІК,***
***старшыня Таварыства***
***«Беларусь – Латвія»***

Аўгіння КАВАЛЮК

## Памяці Леанілы Чарняўскай

У лістападзе гэтага года спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Леанілы Усцінаўны Чарняўскай – складальніцы першай беларускай чытанкі, жонкі вядомага беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага, рэпрэсаванага тагачаснай савецкай уладай. Да канца жыцця Леаніла Усцінаўна так і не змагла адшукаць магілы мужа і сына.

З 1947 года жыла і працавала ў Ленінградзе, памерла 26 верасня 1976 года, пахаваная на Паўднёвых могілках у Пецярбургу.

Апошняя кніга Леанілы Чарняўскай «Апавяданні» выйшла ў 1983 годзе, убачыць якую ёй ужо не давялося.

I

*Дзень заспявае – ночка заплача,*
*Сляза сцякае крывёй гарачай...*
*Што твае раны разварушыла?*
*Ці перад небам ты саграшыла?*
*І перад Богам, і перад людам*
*Была натхнёным прыгожым*
*цудам.*
*Была сумленнай жонкай і маці,*
*Цярпліва ўмела чакаць,*
*кахаці...*
*Лісты пісала за краты мужу,*
*Заўсёды ўмела трымацца*
*дужай.*
*Адкуль займала такія сілы –*
*Мужа і сына шукаць магілы?*
*Ніхто не бачыў, як сумавала,*
*У сэрцы збалелым іх пахавала,*
*Каб на Нябёсах і ў вёсны, і ў*
*зімы*
*Не разлучацца ніколі з імі.*

II

*Дзе мяккі снег на кронах хвой*
*бялее,*
*Ёсць на Паўднёвых могілках*
*алея...*
*Над помнікам схіліліся бярозы,*
*Хаваючы жаночы боль і слёзы.*

# Спеўнасць беларускай і рускай культур

Гэта вядома з даўніх часоў. Самае блізкае геаграфічнае суседства, цеснае перапляценне гістарычных лёсаў, духоўна-хрысціянская роднасць, спеўнасць моў і культур былі зарукай узаемнай увагі, цікавасці, узаемадачыненняў ва ўсе часы.

Лепшыя традыцыі працягваюцца і сёння, тым больш, што наш ўсходні сусед і цяпер зусім не страціў сваёй моўнай прасторы на нашй зямлі, а многія з нас менавіта сродкамі рускай мовы працягваюць ладзіць узаемаадносіны не толькі з усімі рэспублікамі былога СССР. Сёлетні год – Год беларускай культуры ў Расіі. Не толькі ў яе сталіцы, Маскве, а іменна ва ўсёй краіне. Бадай, упершыню намечана такое шырокае знаёмства, каб прадэманстраваць зразумелыя і блізкасць, і самабытнасць.

Першым павітаў нашых землякоў славуты Крамлёўскі палац, які 5 сакавіка гэтага года наладзіў канцэрт, прысвечаны 30-годдзю ансамбля «Сябры», а ў красавіку Вялікі тэатр будзе прымаць Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы і балета Беларусі. У гэтым месяцы – паказ мастацтва ў Санкт-Пецярбургу Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы і Рускім драматычным тэатрам імя Максіма Горкага, а таксама Гродзенскім абласным драматычным тэатрам.

Яраслаўль, Кастрама, Уладзімір, Пскоў і Санкт-Пецярбург прымуць артыстаў беларускай эстрады з праграмай «Квітней, Беларусь», у Смаленску пабывае Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі з праграмай, прысвечанай 60-годдзю вызвалення нашай краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у далёкім Іркуцку – тэатр беларускай драматургіі.

Да юбілею Перамогі над фашызмам прымеркавана правесці ў Расіі і іншыя акцыі, у тым ліку і вераснёўскую мастацкую выставу ў Маскве, у якой возьмуць удзел беларускія і расійскія мастакі – удзельнікі вайны, а ў Новасібірску – Дзень беларускага кіно.

Як вядома, летась Траццякоўка пазнаёміла мінчан з многімі сваімі зборамі, а сёлета ў ёй масквічы здолеюць пабачыць «100 шэдэўраў з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі». Безумоўна, знамянальныя падзеі – адкрыццё помнікаў Францыску Скарыну ў Калінінградзе і Янку Купалу ў Маскве.

*Мы – вясёлы і спеўны народ!*

Добрая справа

## Індыя далёка, але...

Але, як выходзіць, некаторыя ў ёй добра ведаюць нашу Беларусь, тое, што ў нас добра наладжана сістэма адукацыі, у прыватнасці медыцынская. Гэта пацвярджае той факт, што набыць прафесію ўрача ў Гомельскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце пажадалі ажно 40 маладых індыйцаў.

Нядаўна пасол Індыі ў Беларусі наведаў гэтую навучальную ўстанову, сустрэўся са сваімі землякамі, з выкладчыкамі і застаўся не толькі задаволены, але і пры думцы, што трэба папрасіць павялічыць колькасць індыйскіх студэнтаў.

# Пісаў Кабзар у Горкі

***Тарасу Шаўчэнку споўнілася 190 гадоў***

***Яшчэ ў 1935 годзе ў «Литературном наследстве» былі апублікаваны два нявыдадзеныя лісты Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі Піліпу Мікалаевічу Каралёву і канверт ад трэцяга ліста. Гэтыя лісты паступілі ў Дзяржаўны літаратурны музей у Маскве ад нашчадкаў А. Н. Пыпіна (1833–1904) – вядомага рускага літаратуразнаўцы.***

У прадмове да публікацыі лістоў у «Литературном наследстве» літаратуразнавец І. Айзеншток пісаў, што «... не ўдалося выявіць якіх-небудзь звестак пра адрасата лістоў». Напэўна, І. Айзеншток не звярнуў увагі, што на канверце не дайшоўшага да нас трэцяга ліста напісана: «Яго Высакароддзю Піліпу Мікалаевічу Каралёву. Прафесару Горы-Горацкага інстытута ў мястэчку Горкі Магілёўскай губерні». На паштовым штэмпелі пазначана месца адпраўлення: Ахтырка, Харкаўскай губерні. 14 жніўня 1846 год.

Прафесар Каралёў Піліп Мікалаевіч (1821–1894), па дадзеных энцыклапедычнага слоўніка Бракгаўза і Эфрона, ураджэнец Харкаўскай губерні, сын селяніна. Яму ўдалося скончыць фізіка-матэматычны факультэт Харкаўскага універсітэта. Стаў настаўнікам матэматыкі харкаўскай гімназіі.



З 1854 года П. М. Каралёў працуе ў Горках, вядзе заняткі па матэматыцы, сельскай архітэктуры і прыкладной механіцы. Як бачна з матэрыялаў, змешчаных у кнізе «Записки Горы-Горецкого земледельческого института» (книга 3, 1854 г.), ён актыўна займаецца не толькі выкладчыцкай дзейнасцю, але і навукова-даследчай працай, друкуе свае працы ў згаданых намі «Записках...». У 1855 годзе ён здае экзамены на магістра чыстай матэматыкі і атрымоўвае званне ад'юнкт-прафесара механікі. У кнізе С. Г. Цітовіча «Горы-Горецкий земледельческий институт» (Горки, 1960. С.160) адзначаецца, што ў 1856 годзе Каралёў на святочным гадавым інстытуцкім акце зачытаў даклад аб ролі вапны як будаўнічага матэрыяла і аб яе мясцовых сховішчах. У кнізе прыводзяцца словы вядомага прафесара А. В. Саветава аб тым, што Каралёў вельмі палюбіў будаўнічую справу, прымаючы ўдзел у будаўніцтве новых памяшканняў земляробчага інстытута.

У 1858 годзе П. М. Каралёў пераязджае ў Маскву, загадвае сіроцкім домам, кіруе жаночымі сельскагаспадарчымі курсамі. З 1870 па 1876 год узначальвае Пятроўскую (цяпер Ціміразеўскую) сельскагаспадарчую акадэмію.

Цікава, што аб гэтым перыядзе жыцця П. М. Каралёва ўспамінаецца ў кнізе пісьменніка У. Г. Караленкі «История моего современника» (М., 1976). У раздзеле «У Пятроўскай акадэміі» ён расказвае, як трапіў на прыём да Каралёва: «У дырэктарскім кабінеце мяне прыняў сівы стары невялікага росту, з вялікай галавой, буйнымі рысамі твару і суровым выглядам».

Потым ён пераехаў у Пецярбург, дзе выбіраўся старшынёй тэхнічнага аддзела Вольнага эканамічнага таварыства. Такі лёс чалавека, якому пісаў лісты Т. Р. Шаўчэнка. Што расказваецца ў гэтых лістах? Перш за ўсё трэба адзначыць, што гэтыя лісты маюць вялікую каштоўнасць для вывучэння біяграфіі паэта, таму што вядомы толькі два лісты за гэты перыяд. Літаратуразнаўцы з Нацыянальнага архіва Украіны лічаць, што звесткі, якія ўтрымліваюцца ў гэтых арыгіналах, маюць вялізнае значэнне для даследавання і вывучэння біяграфіі паэта. Так, у іх ён упершыню паведамляе аб паездках у Швецыю і Данію, аб дакладнай даце напісання ім паэмы «Гамалія». З лістоў можна ўстанавіць і гістарычныя крыніцы, якімі карыстаўся паэт пры напісанні гэтай паэмы. Гэта прысланыя П. М. Каралёвым зборы запарожскіх песень і дум «Запарожская старына» (Харкаў, 1833–1836).

У пісьмах Шаўчэнка расказвае пра свае выдавецкія справы, аб тым, што ў цяжкую хвіліну яму давялося прадаць правы на выданне ўсіх сваіх твораў.

Аказваў Каралёў паэту і матэрыяльную дапамогу. Ён распаўсюджваў сярод харкаўчан квіткі на выданне яго твораў, а таксама выдадзеныя творы паэта. Сабраныя грошы ён дасылаў паэту. Вядома, што з першым лістом паэт прыслаў Каралёву 7 паасобнікаў сваёй паэмы «Гайдамакі», адзін – яму ў падарунак, 6 – для продажу.

Цікава, што ў лістах адчуваецца іх глыбокае асабістае сяброўства і прыхільнасць. Так, у першым лісце Тарас Рыгоравіч піша:

«Дзякуй табе, добры чалавек, за ласкавае слова, за грошы...»

У другім: «Дзякуй табе, мой голуб, што хоць ты мяне не забываеш. Прачытаў я тваё ласкавае пісьмо...»

А што вядома аб тым, як і дзе пазнаёміліся Тарас Рыгоравіч і Піліп Мікалаевіч? На наша запытанне вучоны – захавальнік фондаў аддзела рукапісаў Інстытута літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі Акадэміі навук Украіны А. М. Палатай адказаў, што звестак аб асабістай дружбе Т. Р. Шаўчэнкі і П. М. Каралёва не выяўлена.

У снежні 1995 года ў час пасяджэнняў навуковых чытанняў, што праходзілі ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі, да мяне звярнулася журналістка Аксана Сяргееўна Булгакава, заслужаны работнік культуры Расіі. Яна нядаўна пераехала з Чалябінска ў Магілёў. Праглядваючы падшыўкі газеты «Магілёўская праўда», яна звярнула ўвагу на мой артыкул «Пісьмы Тараса Шаўчэнкі» (29 верасня, 1988 г.) і параіла звярнуцца да вялікага знаўцы жыцця і творчасці Т. Р. Шаўчэнкі Леаніда Навумавіча Бальшакова, які жыве ў Арэнбургу. Ён арганізаваў у Арэнбургу і Орску два музеі Шаўчэнкі і выдаў 15 кніг пра паэта. У 1994 годзе Л. Н. Бальшакоў быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Украіны імя Т. Р. Шаўчэнкі.

Бальшакоў напісаў, што ён лічыць, што Т. Р. Шаўчэнка і П. М. Каралёў асабіста не сустракаліся. Відаць, яны сябравалі па перапісцы. Ён жа паведаміў, што захаваўся адзін ліст Каралёва да Шаўчэнкі. Яго мы знайшлі ў зборніку «Листи да Т. Р. Шевченко» (Кіеў, 1993. С.17–18). У ім Каралёў піша: «Браце! (Ці можна цябе так зваць?). Бо я цябе палюбіў, дужа палюбіў так, як брата...». Далей ён расказвае пра сваё ўспрыманне «Кабзара» Т. Р. Шаўчэнкі, аб тым, як ён распаўсюджваў у Харкаве квіткі на выданні паэта, аб пасылцы яму зборніка «Запарожская старына».

З 1847 года сувязь паміж сябрамі магла спыніцца, таму што паэт за ўдзел у дзейнасці Кірыла-Мяфодзіеўскага таварыства быў арыштаваны і сасланы радавым.

У 1858 годзе Т. Р. Шаўчэнка вяртаецца ў Пецярбург, а П. М. Каралёў едзе з Горак у Маскву. З кнігі «Шевченко в Москве» (Киев, 1989. С. 12) бачна, што Т. Р. Шаўчэнка бываў у Маскве ў 1858 і 1859 гадах. Ці сустракаліся там былыя сябры?

На жаль, аб гэтым нам невядома нічога. Невядома і аб іх далейшай сувязі і перапісцы.

На гэтым можна было б і скончыць гэты матэрыял аб перапісцы і сяброўстве паэта Т. Р. Шаўчэнкі і прафесара Горы-Горацкага земляробчага інстытута П. М. Каралёва, каб не адзін ліст, што прыйшоў нядаўна з Кіева ад Мікалая Архіпавіча Шудры. У ім ён просіць даслаць звесткі аб П. М. Каралёве і паведамляе, што Каралёў з'яўляецца прадзедам акадэміка, галоўнага канструктара касмічных караблёў С. П. Каралёва.

Вось такія цікавыя сустрэчы бываюць на літаратуразнаўчых сцяжынах. Тут сутыкаюцца паэзія і механіка, будаўнічыя справы і космас.

***Уладзімір ЛІЎШЫЦ***





*Юбілеі*

# Падмурак беларускай археаграфіі

***Ён быў закладзены 180 гадоў таму, калі ў 1824 годзе пабачыў свет «Белорусский архив древних грамот».***

***Цікавая гісторыя гэтага выдання. Яго падрыхтаваў ураджэнец Магілёўшчыны, святар, выкладчык і кіраўнік рэлігійна-духоўных устаноў, спецыяліст па археалогіі Іван Грыгаровіч (1792–1852). А цікавасць, значнасць заключаецца ў тым, што даследчыку-гісторыку дапамог выдаць падрыхтаваную ім працу чалавек прыезджы.***

Не сакрэт, пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі ў наш край хлынула нямала living рознага люду з цэнтральных расійскіх губерняў – атрымаць тут вёскі і прыгонных, пасады, прывілеі, праводзіць мэтанакіраваную русіфікатарскую палітыку. Але былі і выключэнні. Некаторыя прыязджалі не толькі смачна паесці і павесяліцца за народны кошт, але жадалі і дапамагчы люду, сярод якога апынуліся.

Рускі палкаводзец, граф П. А. Румянцаў (Румянцаў-Задунайскі) вызначыўся для Расіі ў войнах са Швецыяй, Турцыяй, а з 1794 года стаў на чале рускіх войск у Польшчы. У 1776 годзе (пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай) у аддзяку за заслугі яму дастаўся Гомель, дзе ў 1785 годзе граф заклаў для сябе палац у стылі класіцызму (з 1834 года належыць генерал-фельдмаршалу І. Ф. Паскевічу, які праславіўся ў вайне з туркамі, французамі, іранцамі, а таксама ўвайшоў у гісторыю, як адзін з «усмірыцеляў» паўстання ў Польшчы, Беларусі і Літве ў 1830–1831 гадах).

Пры Румянцаву-Задунайскім Гомельскі палац меў не столькі культурную каштоўнасць, колькі найперш прызначэнне «барского дворца» – сімвала ўлады яго гаспадара. Так тады і пазней было і ў іншых нашых гарадах, дзе ў іх цэнтрах знішчаліся старажытныя, вольнакіравальныя сімвалы (ратушы і г.д.) і ўзводзіліся пампезныя адміністрацыйныя будынкі.

Яркая старонка ў існаванні Гомельскага палаца звязана з уладаннем ім графа Румянцава-сына, Мікалая Пятровіча (1754–1821). Дыпламат і дзяржаўны дзеяч, ён быў чалавекам высокай культуры. Сабраў каштоўныя рукапісныя, этнаграфічныя, нумізматычныя калекцыі і бібліятэку, якія сталі асновай Румянцаўскага музея. Стварыў гурток гісторыкаў і археографаў, на яго асабістыя сродкі выдадзены многія працы па старажытнай рускай гісторыі і культуры. Менавіта ён, М. П. Румянцаў, паспрыяў сродкамі І. Грыгаровічу выдаць вышэйпамянёны «Белорусский архив древних грамот» (57 грамат і актаў ад сярэдзіны XV стагоддзя да 1768 года), адзін са стваральнікаў першай нумізматычнай калекцыі ў Гомелі.

Ёсць сведчанні, што Румянцаў-сын меў намер паспрыяць І. Грыгаровічу выдаць і іншыя яго навуковыя працы, у тым ліку і слоўнік беларускіх слоў да «Белорусского архива» (ён быў надрукаваны на беларускай, польскай і лацінскай мовах). Паколькі Румянцаў-сын заўважыў, што беларускія словы не ўсе зразумелыя, то гэтым самым ён падкрэсліў самабытнасць старажытнай беларускай мовы.

На жаль, трохтомная праца па выданні «Белорусского архива» не была споўнена ў сувязі са смерцю графа-мецэната, але прыжыццёвы ўчынак яго варты толькі ўхвалы. І. Паскевіч да такой высакароднасці не падымаўся, праводзіў вялікадзяржаўную і шавіністычную палітыку. Яго наступнікі працягвалі яго справу.

**Генадзь ДОЙЛІД**

# Жаночае аблічча Беларусі

**(Заканчэнне. Пачатак у № 9–11)**

*…Сад мой дзіцячы – калючая груша,*
*Бабка Луцэя ды сіні прастор.*
*Пахне аерам на сёмуху ў хаце,*
*Ранак стрыжэ растрывожаны стрыж.*
*Будзіць на зорцы, шкадуючы, маці:*
*«Ягады, дзетка, няўзгадкі праспіш».*
*Першым сярпочкам парэзаны пальцы*
*(Доўга той боль заглушыць не змагу!)…*

Альбо яшчэ адзін творчы лёс – Яўгенія Янішчыц, якую і дасюль называю толькі Жэняю. І разам з ёю хочацца сёння запытаць: «…Што ж там сягоння ў сусвеце і свеце? Кожная болька – радня». Гэта калі душа як адкрытая незагойная рана.

Падобна, і Алаіза з Пашкевічаў гэтаксама смела праходзіла па мяжы жыцця і знебыцця, па лязе вынішчэння – чалавечай годнасці ў чалавеку, нацыянальнага ў народзе, самакаштоўнага ў дзяржаве. Вядома, кожная з паэтэс пасвойму рэалізоўвалася ў сваім часе і сваіх умовах. Аднак жа абедзвюм з касмічных фондаў беларускага рэгіёна нябесным вартаўніком было выдзелена напоўніцу.

У Алаізы выдзеленае гранулявалася, і часта – у наступальна-патрыятычны расклад паводзінаў і звязаны з гэтым выбуховы творчы стыль.

У той жа час быў у яе творчасці і асаблівы ўнутраны агонь. Алаізіна натхненне ставілася відушчым з-за таго, што было здольна прабіцца позіркам з глыбіняў Еўропы, прайсці праз магічны еўрапейскі крышталь цывілізацыі. Нацыянальнае ідэнтыфікавалася ў еўрапейскае, каб зноў самаідэнтыфікавацца ў нацыянальнае. Творчасць была неад'емнай ад жыцця.

Гэта быў той крыж, які паставіў на Алаізінай дарозе майстра з роду старажытных Богшаў, майстроў, якія зналіся з высокім духам і талентам яшчэ з часоў Святой Ефрасінні Полацкай. Але гэты крыж нагадваў, што за ўсё спушчанае і дараванае нябёсамі трэба сплочваць немалую цану.

– Так, так, яно-то так, праляцела, – годзіцца Сцяпан, – але як аглянешся назад, як падумаеш ды прыпомніш тыя магілы, насыпаныя сваімі рукамі, да слёз выліт... каху-каху! – папярхнуўшыся горкім словам, кашляе. – Ось спытай суседа і сведку аб пройдзенай дарозе, – паказвае скручаным пальцам на крыж пры варотах, – усіх маленькіх пахаваў, усіх аплакаў. Не пашкадавалі, родненькія, мяне… старога, не пашкадавалі! – адно за адным, адно за адным, як пацерачкі, пакаціліся…

А крыж – старавіна заімшалы – ліцом глядзеў на абодвух і думаў сваю думу… Разам, пэўне, з Сцяпанам свой век скараталі, разам старэлі і горбіліся. Мо, не адна бура над іх галовамі шумела, не адзін гром іх сэрца мераў…»

Урывак з «Асенніх лістоў» Цёткі – не толькі пра крыж-суседа, але і пра крыж – сведку аб пройдзенай дарозе. Аб той пройдзенай народам дарозе, абапал якой столькі магільных грудкоў, што ўжо і не злічыць. Імёны на тых помнічках пісаныя самой гісторыяй. І так часта імёны – жаночыя: Ефрасіння, Каміла, Еўдакія, Ларыса, Яўгенія, Вера, Надзея, Любоў…

*І ўсё ж:*
*Круціцца, нібыта жорны, планета.*
*Смерці змяючай зацята пятля.*
*Плуг аратая і ліру паэта*
*«Ты ўздымі над сабою, зямля!»*

У Жэні Янішчыц вобраз крыжа найчасцей персаніфікуецца ў абстрактныя паняцці. Гэта ўвогуле пакута, туга, бяда, скразны пякучы роздум пра будучыню роднага краю. Але крыж у яе творчасці заўсёды на месцы:

*Сэрца вясновае просіць любові, –*
*Атамны воран цікуе за ім?*
*Людзі, жывыя мы ў думках і плоці.*
*Бусел распятым крыжом на страсе…*

*(«Зорная паэма»)*

Творчасць беларускіх паэтэс розных эпох лучыцца галоўным – роздумам-болем, у цэнтры якога знаходзіцца Радзіма, беларуская старонка. Далучым да спісу і магутную змагарку за Бацькаўшчыну Ларысу Геніюш:

*Беларусь мая спеўная,*
*летняя, жніўная.*
*Палавеюць загоны густой ярынай.*
*Напаю свае вочы блакітам і нівамі,*
*і лясоў тваіх цьмяных суровай красой…*
*Пагляджаю навокал – дачка твая верная –*
*і люблю да адчаю, мой скарбе, цябе.*
*Шлях даўгі, адзінокі, усыпаны цернямі.*
*Толькі я не прыстала яшчэ ў барацьбе.*

Гэта – як працяг Цётчынага: «Музыкант галосіць, //Скрыпка не махлюе, // Хутка «хамску» песню // Увесь свет пачуе».



*Паводле малюнкаў Язэпа Драздовіча і Алеся Пушкіна*

У Я. Янішчыц гэты агульны аптымізм часта набываў даволі суб'ектывізаванае адценне, пераплаўляючыся ў творчы эгацэнтрызм. Гордая палышучка супадала абрысам з амбітнай, незалежнай у сваіх творчых імпульсах Паэтэсай, якая добра ведала сабе цану (прабачаюся за сучасную тэрміналогію). Асоба беларускай паэтэсы (Цётка – Ларыса Геніюш – Яўгенія Янішчыц) неад'емная ад асэнсавання зямной прасторы, якая ўбачана не толькі знізку, але таксама з вышыні аблокаў і птушыных крылаў. «Птушынай радні» (Я. Янішчыц) прысвечаны многія цудоўныя старонкі беларускай жаночай паэзіі. І калі задаць сабе пытанне, што ж аб'ядноўвае Слова прадстаўніц розных творчых пакаленняў, то ўрэшце можна знайсці той прамення ключык, які дапамажа адкрыць таямніцу беларускай жаночай паэзіі. А яна існуе яшчэ ў той генетычнай памяці, якая даносіць да творцы галасы цэлых пакаленняў: аратых і касцоў – сціплых працавітых вяскоўцаў. У жылах беларускіх паэтэс пульсуюць генныя рытмы цэлых пакаленняў. Вось чаму вёска тут не толькі калыска маленства. Гэта роднае гняздо ўсёй нацыі, усяго народа, а кожны жыхар беларускай вёскі адметны прадстаўнік вясковага люду. Беларускія паэтэсы бачаць кожнага свайго героя, адгукваюцца на кожнае пачутае слова, на кожны сустрэчны позірк. У адзін публіцыстычны і лірычны вузел знітоўваюцца такія паняцці, як родная зямля, родныя людзі, каханне.

У паэзіі Цёткі, Янішчыц, Геніюш – тысячы пройдзеных імі і іх бацькамі, іх вясковымі суседзямі сцежак! Таму так часта паэтэсы на гэтых паэтычных сцежках сустракаюцца з людзьмі, якія ўмеюць любіць і шанаваць.

Пасіянарнасць уласцівая беларускім паэтэсам усіх пакаленняў і ўсіх гістарычных і творчых эпох. Яна пачалася ў глыбіні фарміравання нацы, на скрыжаванні розных пуцявін, у лучнасці многіх лёсаў. Пасіянарнасць Цёткі, якая, па сутнасці, і пачала ў творчасці працаваць у імя Бацькаўшчыны ад імя Продкаў і якая катэгорыю беларускай жаночай самаахвярнасці ўзняла да вышыняў подзвігу, гэтая гістарычная пасіянарнасць (вызначэнне ўмоўнае) адкрыта грамадзянская, адраджэнская, надзённа-закліковая:

*У нас там ноч, у нас там стук,*
*Мы ацямнелі з страшных мук,*
*З нас пот ліецца, сохнуць грудзі.*
*Нас катуюць! Чуйце людзі!*
*Чуйце, чуйце, руку дайце!*
*Мы вам родны. Праўду знайце…*

Гэтыя Цётчыны радкі, трэба меркаваць, заўсёды былі ў падсвядомасці ахвярнай беларускай паэтэсы-выгнанніцы Ларысы Геніюш. Яе, «на чабары настоеная» балючая любоў да радзімы сягае карэннем у генетычную памяць нацыі. Гэта «белы сон», у які паэтэса, бы ў вір, кідаецца з кручы рэальнасці. Той рэальнасці, якая не абмінула яе нават лесапавалам таталітарнага рэжыму: «Кніжка побач. Я сплю, не прачнуся, // Водзіць сон па далёкіх кутках. // Назіраю. Нясу Беларусі нізку вершаў у кволых руках». Ні рукі, ні сэрца, ні дух Ларысы Геніюш не былі кволымі. Гэта той сон, які называецца Беларуссю і за які даволі часта даводзіцца расплочвацца не толькі здароўем, унутраным спакоем, але нават жыццём. Таму адначасна пачынаюць праrastаць з гэтага жывога сну песня і … малітва:

*Песня злятае натхнёнай малітваю,*
*мужнаю нотай на струнах гучыць,*
*шчасцем смяецца, калісь пераж ытым,*
*папараць-кветку шукае ўначы.*

Услед за Ларысай Геніюш прамаўляе сваю малітву і Жэня Янішчыц. Але ў нотах усёй беларускай жаночай паэзіі гучыць галоўная Цётчына мелодыя – мелодыя мужнасці і свабоды: «Бо я толькі на прастора х // У звонкай ліры маю слух; // Бо у дзікай страшнай буры // Крэпне мой свабодны дух».

З гэтым рэфрэнам беларуская паэзія, беларуская літаратура ўступае ў новы этап барацьбы за незалежную Беларусь. І няхай дапамогуць нам у гэтым Святыя зямлі беларускай.

**Валянціна КОЎТУН**



*Зоська Верас і Вільня*

*Сёлета сярод юбілеяў грамадска-палітычнага характару асаблівае значэнне мае 210-я гадавіна з часу пачатку паўстання 1794 года ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве. Яно мела ярка акрэслены, справядлівы нацыянальна-вызваленчы напрамак супраціву царскай акупацыі і прускай інтэрвенцыі 1793 года, калі ў выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай яе незалежнасць набыла амаль умоўны характар і калі ў гэтых умовах уладу захапіла рэакцыйнае магнацтва.*

Старонкі нашай гісторыі

# Паўсталі
## 210 гадоў таму...

Кіраўнікі паўстання не былі адзінадушныя, але большасць мела на мэце аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года (да першага яе закуліснага падзелу) і Канстытуцыі 3 мая 1791 года, працяг прагрэсіўных рэформ Чатырохгадовага сойма 1788–1792 гадоў. У выніку перамоў кіраўніком і галоўнакамандуючым нацыянальнымі ўзброенымі сіламі паўстання быў прызначаны Андрэй Тадэвуш Касцюшка.

Ён нарадзіўся 4 лютага 1746 года ў фальварку Мерачоўшчына сённяшняга Івацэвіцкага раёна, а ў 1769-м скончыў Варшаўскі кадэцкі корпус, вучыўся ў Парыжскай ваеннай акадэміі (1769–1774). У 1775–1783 гадах па сваім жаданні, спачуванні заняволеным удзельнічаў у вайне за незалежнасць ЗША, пасля вярнуўся на радзіму і з 1789-га – у арміі. Пазней мусіў эмігрыраваць. Даючы згоду ўзначаліць паўстанне 1794 года, ён жадаў, каб яно мела агульнадэмакратычны характар, несла палёгку сялянам, але гэтаму супраціўлялася рэакцыйная шляхта, што звузіць, аслабіць падпору паўстання.

Падрыхтоўкай да яго ў Варшаве кіраваў генерал І. Дзялынскі, у Вільні і ў краі – палкоўнік Я. Ясінскі. Апошні (1761 г.н.) быў паэт, добра ведаў інтарэсы беларускага народа, ведаў беларускую мову і пісаў на ёй, у час падрыхтоўкі паўстання ў ВКЛ узначальваў радыкальную "якабінскую" плынь: адно з яго патрабаванняў было на той час рэвалюцыйнае – адмена прыгоннага права.

Прапануем чытачам урыўкі з публікацыі ў "Беларускай мінуўшчыне" за 1994 год, заснаванай на новых матэрыялах:

Сігнал да паўстання на Беларусі і ў Літве абвясцілі 22 красавіка званы віленскіх касцёлаў і цэркваў. Кіравала паўстаннем створаная Ясінскім 23 красавіка Найвышэйшая Рада літоўская. 24 красавіка ён падпісаў Акт аб заклiку народаў Беларусі і Літвы да паспалітага рушэння.

Паўстанцы паслядоўна перамаглі ў Гародні, Брэсце, Слоніме, Ваўкавыску, Пінску, Навагародку, Кобрыне, Ашмянах, Лідзе, Браславе. На чале паўстанцкіх атрадаў сталі генералы гвардыі Стэфан Грабоўскі, князь Сапега, генерал Зайёнчак, вялікі падскарбій літоўскі, кампазітар Міхал Клеафас Агінскі. Менавіта ён напісаў «Марш паўстанцаў 1794 года».

Польскай шляхце не падабалася рэвалюцыйная рашучасць віленскіх якабінцаў на чале з Ясінскім. Не падзяляў яго погляды і сам Касцюшка. Ён абвінавачваў Найвышэйшую літоўскую раду ў тым, што яна выступае супраць уніі палякаў, літоўцаў і беларусаў. Не спадабаліся Касцюшку і захады Ясінскага па ўзбраенні беларускіх і літоўскіх сялян. Вынікам гэтых непаразуменняў стала тое, што Касцюшка распусціў Найвышэйшую Раду літоўскую і стварыў замест яе Цэнтральную дэпутацыю Вялікага княства. У яе ўвайшлі больш памяркоўныя дзеячы з абмежаванай шляхецкай праграмай. Яны не хацелі абапірацца на просты люд, выступалі супраць сапраўднага скасавання прыгоннага права.

І самае галоўнае, што, відаць, у рэшце рэшт раскалола паўстанцкія сілы і аслабіла яго запал: Цэнтральная дэпутацыя катэгарычна адмаўляла роўнасць Беларусі і Літвы з Польшчай, іх самастойнасць. Гэта адштурхнула ад актыўнага ўдзелу ў паўстанні прагрэсіўную частку беларускай і літоўскай шляхты, што марыла аб адраджэнні Вялікага княства, і сялянскія масы, што спадзяваліся на зямлю і волю.

Не прымусілі сябе чакаць і паражэнні. Супраць паўстанцаў, што дзейнічалі на Беларусі і ў Літве, ішлі рэгулярныя, з багатым, набытым у турэцкай вайне вопытам войскі на чале з таленавітымі генераламі і афіцэрамі, сярод якіх былі Сувораў, Ферзен. Ужо ў жніўні царскія войскі ўзялі Вільню, і трохмесячнае рэспубліканскае праўленне на Беларусі і ў Літве скончылася. Рэшткі паўстанцаў пачалі адступаць у Польшчу...

Чым абярнулася падаўленне паўстання для Беларусі? Польскі дзяржаўна-нацыянальны ўціск, якому падвяргаліся сяляне, змяніўся не менш цяжкім. Замест польскай шляхты панаваць над імі стала расійскае дваранства.

З усяго сказанага вышэй, на маю думку, вынікае наступнае. Як бы там ні было, але яшчэ з часоў Крэўскай уніі 1385 года гісторыя Беларусі і беларусаў цесна звязана з гісторыяй Польшчы. Рэч Паспалітая была дзяржавай не толькі палякаў, але і літоўцаў, украінцаў, беларусаў. Пры ўсіх складанасцях адносін паміж гэтымі народамі яны многія стагоддзі жылі супольна, разам баранілі свае землі ад ваяўнічых суседзяў, сумесна паўставалі супраць самадзяржаўнага прыгнёту.

Так было і падчас паўстання 1794 года. Падзеі двухсотгадовай даўнасці адбываліся на нашай зямлі, іх удзельнікамі былі нашы продкі, якія змагаліся найперш за зямлю і волю.

Гэта – наша паўстанне... Рэха віленскіх званоў і сёння будзіць нашу гістарычную самасвядомасць.

**Святаслаў АСІНОЎСКІ**



Касцюшка падчас бітвы

З малюнка Ю. Косака

## Хроніка даўніх падзеяў

**24 сакавіка** – Тадэвуш Касцюшка ў Кракаве абвясціў «Акт паўстання».

**4 красавіка** – Тадэвуш Касцюшка пад Рацлавічамі разбіў войска генерала Тармасава.

**18 красавіка** – гарадскія нізы вызвалілі ад царскіх войскаў Варшаву.

**22 красавіка** – званы віленскіх цэркваў і касцёлаў абвясцілі аб пачатку паўстання на Беларусі і ў Літве.

**23 красавіка** – паўстанцы пад кіраўніцтвам Якуба Ясінскага падавілі супраціўленне царскага гарнізона ў Вільні; утворана Найвышэйшая Рада літоўская – рэвалюцыйны ўрад Літвы і Беларусі ў час паўстання.

**24 красавіка** – Якуб Ясінскі падпісаў Акт аб заклiку народа Беларусі і Літвы да паспалітага рушэння.

**24 красавіка** – вызваленне паўстанцкімі сіламі Вільні ад расейскіх акупантаў і ўтварэнне Найвышэйшае Рады Вялікага княства Літоўскага.

**28 красавіка** – паўстанцы перамаглі ў Гародні.

**7 траўня** – пераможная бітва паўстанцаў пад камандаваннем генерала Вялікага княства Літоўскага Якуба Ясінскага з расейскім аддзелам каля вёскі Паляны (цяпер Ашмянскі р-н).

**7 траўня** – Тадэвуш Касцюшка выдаў «Маніфест», так званы «Паланецкі універсал», які надзяляў сялян асабістай воляй, прызнаваў за імі правы на зямлю.

**9 траўня** – далучэнне насельнікаў Берасцейскага ваяводства да паўстання. Утварэнне ў Берасці мясцовага кіраўнічага органа – Парадкавай камісіі.

**27 траўня** – бітва з расейскім войскам пад Ліпнішкамі, за 12 км ад Іўя.

**10 чэрвеня** – утварэнне Цэнтральнай дэпутацыі Вялікага княства Літоўскага – выканаўчага органа ў час паўстання.

**12–16 чэрвеня** – баявы рэйд аддзела Міхала Клеафаса Агінскага на Меншчыну.

**13 чэрвеня** – вызваленне ад расейскіх войскаў Валожына.

**15 чэрвеня** – абвяшчэнне ў Івянцы М. К. Агінскім Звароту да грамадзянаў Менскага ваяводства.

**16 чэрвеня** – параза аддзела М. К. Агінскага пад Вішневам.

**26 чэрвеня** – бітва паўстанцаў пад кіраўніцтвам генерала Якуба Ясінскага з расейскімі аддзеламі пад Соламі, ля Смаргоні.

**2 жніўня** – сутычка паўстанцкага аддзела Караля Серакоўскага з расейскім корпусам каля Слоніма.

**1–13 жніўня** – рэйд двухтысячнага аддзела Міхала Клеафаса Агінскага з-пад Вільні праз Браслаўшчыну на Дынабург (цяпер Даўгаўпілс), дзе да паўстанцаў далучыўся паўтысячны аддзел мясцовай шляхты і сялянаў на чале з генерал-маёрам К. Беліковічам.

**17 жніўня – 4 верасня** – рэйд трохтысячнага атрада Стахвана Грабоўскага па Меншчыне і Магілёўшчыне (Івянец, Ракаў, Койданава, Свіслач, Пухавічы, Асіповічы, Бабруйск, Глуск, Любань).

**24 жніўня** – сутычка авангарда С. Грабоўскага на ракаўскім гасцінцы, у 10 вярстах ад Менска, з расейскім раз'ездам.

**26 жніўня** – вайсковая нарада ў Пухавічах, на якой вырашана ісці на паўднёвы ўсход Беларусі.

**30 жніўня** – вызваленне Бабруйска.

**4 верасня** – бітва з расейскім аддзелам пад Любанню.

**14 верасня** – сутычка паўстанцаў з авангардам Суворава пад Дывінам (цяпер Кобрынскі р-н).

**15 верасня** – бой кобрынскай павятовай міліцыі Вялікага княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Казіміра Рушчыца з сувораўскімі аддзеламі ў Кобрыне.

**17 верасня** – буйнейшая бітва паўстанцаў пад камандаваннем Караля Серакоўскага з войскам Суворава каля Крупчыцаў (Кобрынскі р-н).

**19 верасня** – вырашальная бітва пад Берасцем.

**30 верасня** – нарада кіраўнікоў паўстання Якуба Ясінскага, Тамаша Ваўжэцкага, Юрыя Грабоўскага, Станіслава Макраноўскага пад старшынствам Андрэя Тадэвуша Касцюшкі ў Каралеўскім палацы ў Гародні.

**10 кастрычніка** – бітва паўстанцаў пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі з корпусам генерала Ферзена пад Мацяёвіцамі (каля Варшавы), у якой яны былі разбітыя, а Касцюшка пасля ранення трапіў у палон.

**9 лістапада** – войскі Суворава занялі Варшаву; падчас абароны Варшавы загінуў Якуб Ясінскі.

**18 лістапада** – пад Раджыцамі атрадам генерала Дзянісава ўзяты ў палон Тамаш Ваўжэцкі, пераемнік Касцюшкі, які адмовіўся падпісаць прапанаваную яму Суворавым капітуляцыю.

*Лагер паўстанцаў. Вясна 1794 г.*



З малюнка М. Стаховіча

## Універсал да жыхароў Мінскага ваяводства

Жыхары, якія нарадзіліся ў адной айчыне, але якія вымагальніцкім чынам суседніх дзяржаваў з чэрава маці сваёй вырваны, скіньце з сябе ганебнае гэтае ярмо, якое вас з непадуладных палякаў робіць няшчаснымі нявольнікамі тырана, вазьміце ў рукі вашыя зброю, якою продкі вашыя так умела маглі ўтаймоўваць ворагаў айчыны, далучайцеся з вашымі сіламі да сілаў вашых братоў, як і добрыя сэрцы вашыя сапраўды з імі злучаныя. Хай засаромеецца ад адзінай і згоднай сілы подлы тыран, што перад вамі фанабэрыцца, які лічыць, што, прыгнятаючы паляка, здолее і сэрца ягонае зрабіць нізкім; хай здрыганецца дэспат, гледзячы на запаленне, якое находзіць ад дабрачыннасці і адчаю; кожны з вас хай далучыцца да святой сувязі, якая ўзноўлена актам Кракаўскім пад кіраўніцтвам Касцюшкі, няхай будзе ў душы вашай тая праўдзівая справядлівасць, што дабрачыннасць і аднадушша спалохаць могуць і наймоцнага непрыяцеля; з уласнага вопыту я сам ведаю, што дзе толькі пакажацца жаўнер польскі, там заўсёды ці ахвяраю робіцца, ці бяжыць непрыяцель, які звык да грабежніцтва, але які бяззбройных толькі палохае, а вояў і сам баіцца. Уступленне маё ў межы Мінскага ваяводства засведчаць бедствы Маскоўскіх войскаў, якія сапраўды штодзённа па дарозе бываюць разбітыя, і набыцця ад іх вялікай здабычы. І так мы, браты і жыхары, усе цяпер увогуле смела ў тым стаім, што ці вернем айчыне вольнасць, ці дамо сябе пахаваць у яго развалінах; а калі аб гэтым я вам, жыхары, пасланы ад поўнага дабрачыннасці і мужнасці генерал-лейтэнанта войскаў Літоўскіх Ясінскага, паведамляю, то разам з тым і спадзяюся, што гэты мой заклік ажывіць у сэрцах вашых агонь; Універсал жа непераможнага Касцюшкі і Акт Кракаўскі пакажуць вам спосаб, якім чынам можаце з'яднацца з намі; а на гэты выпадак рэкамендую, каб гэты заклік разам з Актам Кракаўскім пры дзвярах касцёльных быў прыбіты, а копіі з іх пад усіх парафіях разасланыя б былі, і гэта здзейсніць прашу вас любоўю да Айчыны.

Дадзены ў Івяніцы, 1794 года чэрвеня 15.

*Міхаіл Агінскі,*
*егерскага корпуса шэф і камандуючы вольнымі войскамі.*
*1794.*

**Парады ад дзядзькі Антося**




*Калі часта тчэцца туман, то можа быць даждлівае лета.*

*Калі на полі віхурыць-мяце, а снег замятаецца ў хвалі, бугарочкі, то чакайце ўлетку ўроду агародніны і жыта.*

*Калі сакавік без морасі – на ўрод, калі з дажджом – няўрод.*

*Калі ў сакавіку неба загрыміць – на ўрод.*

*Калі гракі прыляцелі – праз месяц снегу не будзе.*

*Пасля суровай зімы вясна часцей за ўсё бывае позняй, але дружнай, а пасля мяккай, наадварот, ранняй, але зацяжной.*

Вось напісаў гэта і затрымаў у руцэ аловак: усё вышэйзгаданае бывае звычайна, а сёлета... Прызнаюся шчыра, па леташніх сваіх вясенне-летніх, асенніх назіраннях асабіста я не чакаў такой снежнай зімы.

Хацеў нядаўна пабываць на свіам лецішчы. Пад'ехаў шашою да паваротκі на наша "Узгор'е–2", а туды – ні дарогі, ні сцежкі. Стары, не асмеліўся і паўкіламетра брысці па калена па цаліку. Мабыць, не адзін я душою рвуся на лецішча, але стрымліваюся, чакаю лепшай часіны.

А які мой прагноз?

Навуковыя інстытуты памыляюцца, але я рызыкну на аснове сваіх назіранняў-роздумаў, сказаць так: пасля сакавіцкіх перападаў у красавіку можа быць такое: цёпла, часамі нават да + 15, хваля холаду з 10-га па 20-е. Май, як заўсёды ў нас, незвычайны – цяплейшы і сушэйшы, халаднаватыя дажджы ў пачатку месяца. Гэта – такой бяды, абы не мароз на цвіценне садоў. На заканчэнне мая – пацяпленне. Можа, і да + 20, а то і больш.

Паглядзім, але...

Пакуль, калі на лецішчах шмат снегу і не зусім зручна таптацца каля дрэў, затрымаліся ў горадзе. Прысвецім сваю ўвагу расадзе. Перцам, баклажанам, сельдэрэю і познім гатункам памідораў.

А ўвага такая: тое, што ўзышло, патрабуе цяпла і святла. Калі розныя скрыначкі з расадаю ставіце на батарэі, то зямля хутка сохне, трэскаецца, што зусім не спрыяе маленькім карэньчыкам; калі мала цяпла, то небяспека іншая: ад сырасці могуць пайсці плесень, розныя грыбковыя хваробы. Дарэчы, апошняе можа падключыцца і на падаконніку, пры святле, калі будуць побач гаршкі з пакаёвымі кветкамі: з іх хвароба "пераскочыць" на свежую зямлю. Трэба сачыць і сачыць: не дапусціць і засушэння, і пераўвільгатнення. Калі зямля насычаная, то я не раю яе падкармліваць мінералкаю. Апошняе пагоніць у рост, калі пакуль што патрэбна іншае: каб расліна чым больш абкарэньвалася. Перасаджвайце расаду ў асобныя рознага віду гаршчочкі самае малое пры трох сапраўдных лісточках і на маладзіку. Зразумела, стаўце гаршчочкі на некалькі дзён на падлогу далей ад цяпла і святла. Пасля – на падаконнік і як мага радзей. Загушчэння саджанцы не любяць.

***Пра новую расаду.*** Найперш – пра памідоры ранніх гатункаў. Як вядома, у асноўным расада павінна мець тэрмін свайго жыцця 45–50 сутак. Вось і падлічыце: калі яе садзіць у адкрыты грунт у канцы мая, то на расаду трэба пасадзіць прыкладна ў сярэдзіне красавіка.

А цяпер, сябры, зазірнём у сёлетнія календары агародніка. У мяне іх два – з газет "Звязда" і "Рэспубліка". Што да месяца сакавіка, то абодва амаль дружна паведамляюць: сёлета спрыяльныя дні для пасадкі насення памідораў 25–27, 28–30 чысла, а вось у красавіку спрыяльных дзён амаль няма (праўда, уназваных календарах ёсць наконт гэтага і разнабой – "звяздоўскі" называе спрыяльнымі 20–22, 24–26 красавіка). Пазнавата садзіць на расаду ажно ў канцы красавіка, рызыкнуць на гэта можна з тым разлікам, што будуць цёплыя верасень і кастрычнік.

Дарэчы, як толькі сыйдзе снег, трэба пасеяць на прыгатаваных увосень градах моркву, пятрушку. "Звяздоўскі" каляндар у сакавіку называе спрыяльныя дні за 8–9 чыслы, але яны прайшлі ўжо, а па-другое, зямля яшчэ пад снегам. У красавіку гэта – 6–8 чыслы, у маі – прочырк. Значыць, давайце даверымся моркву і пятрушку сеяць 6–8 красавіка. Расаду на капусту – 23 – 25 сакавіка, як і кроп, салату, цыбулю на пяро. Радыс "просіцца" ў зямлю крыху раней – 19–20 сакавіка.

І яшчэ. Некаторыя, каб хутчэй расла расада, ужываюць розныя стымулятары росту. Лічу, што рабіць гэта не варта. Як і пазней, калі расада будзе высаджана асобна. Калі выкарыстоўваць пазней стымулятары, то найперш тыя, што будуць спрыяць умацаванню карнявой сістэмы. Скажам, яны прыдадуцца добра, калі трэба надзейна абкараніць галінкі садовых дрэў і ягадных кустарнікаў, што, бывае, зусім нялёгка.

Калі будзеце набываць насенне, то для вышэйзгаданага абкаранення набудзьце і гетерааукcін, а пазней дзейнічайце згодна з прыкладзенай да таблетак інструкцыяй. Аднак старайцеся пазбегнуць крайнасцей: слаба апрацуеце – слабая і аддача, перабольшыце – можаце загубіць чаранкі. І – паліў ды паліў.

# Не закурым і па адной?

## ...і курыце ўсё беларускае!

Нашы дзяржаўныя перыядычныя выданні даволі часта рэкламуюць айчынныя вырабы і заклікаюць: "Купляйце ўсё беларускае!" Нядаўна адзін з журналістаў-аўтараў ў высакародным памкненні рэалізоўваць беларускія паштоўкі, у тым ліку і на беларускай мове (што, бывае, залежваюцца на складах, а замест іх прадаюцца прывазныя), усклікнуў: "Прадавайце ўсё беларускае!"

Усё беларускае, безумоўна, прадаваць не варта, нават неабачліва, а то і злачынна перад нашымі продкамі і нашчадкамі.

І вось прыклад: як можна пабачыць у нашых крамах, у іх пачалі прапаноўваць замест замежных цыгарэт курыць нашы, гродзенскія. А закавыка гэтая ў тым, што мала параіць, каб гродзенскі тытунь быў лепшым. Трывожыць іншае: калі ў 2003 годзе, як нядаўна паведаміла "АиФ в Беларуси", прадалі 7,2 мільярда цыгарэт гродзенскай фабрыкі, то сёлетні план прадугледжвае збыць іх да 8 мільярдаў штук. Трывога – у гэтых мільярдах. І яны, і грошы за іх – не на здароўе ж!

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Працяг. Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**Архітэктура** (працяг артыкула). У XVII–XVIII стагоддзях горадабудаўнічая канцэпцыя на Беларусі вызначылася сацыяльна-палітычнай і эканамічнай сітуацыяй, што існавала тады ў Рэчы Паспалітай. Не маглі не ўлічвацца былыя абаронныя пабудовы. Па-ранейшаму ў гарадах меліся 2 цэнтры, вуліцы ўлічвалі гандлёвыя шляхі і вытворчую дзейнасць гараджан. У сувязі з новымі пабудовамі тыпы жылля больш разнастаяцца – ад простых прамавугольных аднazрубных да складаных дамоў з развітай кампазіцыяй аб'ёмаў і дэкораў фасадаў (нясвіжскі "дом на рынку"). У 1760-я ўпершыню комплексна ажыццёўлена ідэя тыпавога маламетражнага жылля з эканамічным спалучэннем будаўнічых матэрыялаў (варнянскі архітэктурны ансамбль, пастаўскі архітэктурны ансамбль). У гарадах будаваліся ратушы, тэатры, мануфактуры, арсеналы, шпіталі, аптэкі, цэхавыя дамы, корчмы, лазні і іншыя пабудовы грамадскага і прамысловага прызначэння, а сярод іх разнастайнымі па тыпах былі гандлёвыя рады і гасціныя двары. У пэўнай ступені адлюстроўваліся спрэчкі характараў будаўніцтва культавага прызначэння (каталіцызм і праваслаўе). У школах, друкарнях, бальніцах. Асноўнымі тыпамі манументальнага будаўніцтва ў гэты перыяд былі кляштары, манастыры і жылыя рэзідэнцыі заможнікаў. На працягу ўсяго XVII стагоддзя і першых трох чвэрцяў XVIII стагоддзя ў манументальнай архітэктуры пераважала барока.


*Нясвіжскі «Дом на рынку»*

Лепшымі архітэктурнымі ўзорамі таго часу былі Нясвіжскі касцёл езуітаў, Магілёўскі Багаяўленскі сабор, Магілёўская Мікалаеўская царква, Гродзенскі касцёл і кляштар езуітаў, Гродзенскі касцёл і кляштар бернардзінцаў, Бярозаўскі касцёл і кляштар картэзіянцаў, Мінскі касцёл і кляштар езуітаў, Віцебская і Магілёўская ратушы і інш. Іх стваралі ў асноўным мясцовыя майстры, часамі манахі, а ў некаторых выпадках вядомыя архітэктары. Спецыфічныя рысы мела архітэктура сінагог на Беларусі. Традыцыйныя тыпы драўляных культавых пабудоў развіваліся пад уплывам народнага дойлідства і мураванай архітэктуры. Манументальнае беларускае драўлянае дойлідства XVII–XVIII стагоддзяў вызначалася цэласнасцю аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі збудаванняў, сціплым вонкавым дэкорам.


*Магілёўскі Багаяўленскі сабор (пач. XX ст.)*

З развіццём ваеннай тэхнікі з пачатку XVIII стагоддзя галоўнымі ў абароне сталі фартыфікацыйныя прыстасаванні за межамі будынкаў. Пачынае набіраць моц палацава-замкавае будаўніцтва, пасля – палацава-паркавае (Гальшаны Ашмянскага раёна, Нясвіж). Пашыралася садова-паркавае мастацтва, а з канца XVIII стагоддзя – пейзажныя паркі. Архітэктура палаца набывае свецкія парадныя рысы, павялічыліся плошча і колькасць паверхаў, з'явіліся анфілады парадных пакояў. У 2-й палове XVIII стагоддзя набылі жыццё архітэктурныя збудаванні пераходнага тыпу ад барока да класіцызму – Гродзенскі каралеўскі палац, Ружанскі палац, Свяцкі палац. Пачаткам сцвярджэння класіцызму з'яўляецца прыкладна 1780 год (Дзярэчынскі палац, Шчорсаўскі палац і інш.). На пазнейшае развіццё архітэктуры вялікі ўплыў аказалі новыя грамадска-палітычныя, эканамічныя з'явы, што пачалі складвацца ў выніку далучэння Беларусі да Расійскай імперыі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у апошняй чвэрці XVIII стагоддзя. З ростам гарадоў пачало пашырацца мураванае жыллё і грамадзянскае будаўніцтва. У той жа час і ў 1-й палове XIX стагоддзя структура многіх


*Палац у Дзярэчыне (1930-я гг.)*

беларусікх гарадоў пачала перагледжвацца згодна прынцыпаў рускага класіцызму. Планы гарадоў падганяліся пад формы прамавугольнікаў і шматкутнікаў. Гэта рабілася ў 3 этапы: з 1778 – Бабінавічы, Беліца, Быхаў, Віцебск, Гарадок, Клімавічы, Капыль, Магілёў, Мсціслаў, Орша, Полацк, Рагачоў, Сураж; з 1800 – Вілейка, Бабруйск, Барысаў, Дзісна, Ігумен, Мінск, Мазыр; у 1-й палове XIX стагоддзя – Брэст, Пінск і інш.

Існуючыя архітэктурныя ансамблі не маглі не ўлічвацца, але новыя планы не заўсёды ўлічвалі рэльефныя асаблівасці, затое ўважліва, нават пільна ўлічвалася іншае: размяшчэнне, будаўніцтва сімвалаў новай, царска-імперскай улады – будынкі губернскіх, павятовых праўленняў, судоў, паштовых станцый і інш., многае з чаго размяшчалася ў цэнтры горада. Пад рознымі агаворкамі ў многіх гарадах пачалі знішчацца сімвалы былой улады – скажам, ратушы, што падкрэслівалі пэўныя вольнасці горада, яго самакіраванне. Ёсць звесткі, што, да слова, будынак ратушы ў Мінску гараджане адмовіліся разбураць, дык гэта зрабілі зняволеныя, якім паабяцалі палёгкі ці нават вызваленне. Ратушу ў Мінску аднавілі толькі ў нашы дні, хоць пакуль што, апроч антуражнасці альбо музейнасці, не ўсім зразумелае яе новае прызначэнне.

*(Працяг артыкула будзе)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Першы нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 25. 03. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.
Заказ 526.
Тыраж 1050.